

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 43 (13575)

19 — 25 кастрычніка 1992 года

Кошт 3 рублі.


28 кастрычніка 1992 года: ці будзе канец свету? 2

Ці ўсё спакойна ў Чарнобылі? А праўда, што "звяры" канверсуюцца? Чаму бясплатнае дзіцячае харчаванне — не для ўсіх? 3

"ГАРЧЫЧНІК" прадстаўляе палітычныя карыкатуры



5

Станіслаў ШУШКЕВІЧ: "Мы яшчэ толькі на шляху да самастойнай дзяржавы". Пад дахам Беларускага дзяржаўнага універсітэта Старшыня Вярхоўнага Савета адказаў, сярод шэрагу іншых, і на пытанні "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ". 4

## "ГАРЧЫЧНІК" НА СПІНУ ЎЛАДЫ




"ЧАГО БАЯЦЦА РУСКАМОЎНЫЯ?" Палемічныя нататкі Алеся Палынскага. 8

"НОТНЫ АРКУШ" Музычная газета.



11—14

Уладзімір МІХНО "Лёнька Брэжнеў". Апавяданне. 15

Забойствы, у якія быў закаханы Альфрэд ХІЧКОК... 21

Наш карэспандэнт прадпрыняў падарожжа па Мінскай каналізацыі і высветліў, што там няма ні бомжаў, ні пацукоў.

"МЫТНЫ ПАРОЛЬ". Калі не ведаеш яго, то наўрад ці трапіш за мяжу. У гэтым пераканаўся наш карэспандэнт, які пабываў у Брэсце. 7

"Секс у нас ёсць!" — сцвярджае вядомы сексолаг Д.Капусцін. Першы секс-шоп у Мінску. 17

КОМІКС



24

# ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

## У ЧАРНОБЫЛІ ЎСЁ СПАКОЙНА?

*"Ходзяць чуткі, што на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі да сённяшняга дня працягваюцца выкіды радыеактыўных рэчываў. Ці праўда гэта?*

**А.Касцюковіч, Лунінецкі раён".**

"Не дай Бог, гэтыя чуткі пацвердзяцца", — думалася нам, калі мы тэлефанавалі ў сектар інфармацыі Камітэта па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС. Але там нас супакоілі, сказаўшы, што для трывогі няма падстаў. Не так даўно, сапраўды, Чарнобыльскі саркафаг даў трэшчыну (пра гэты выпадак, дарэчы, пісалі ў друку), але "пракол" быў хутка "заклеены".

## "ЗВЯРЫ" КАНВЕРСУЮЦЦА?

*"Ці праўда, што ў прыгранічных з Літвой і Украінай раёнах адзін беларускі разліковы білет купляюць за 40 рублёў?*

**Т.Захарэнка, г. Барысаў".**

Заінтрыгаваныя такім пытаннем, мы звярнуліся ва Упраўленне грашовага абарачэння Нацыянальнага банка РБ. Аказваецца, і сапраўды ў раёнах, якія знаходзяцца на мяжы з названымі краінамі, беларускія разліковыя білеты скупляліся па курсу 1 да 40 "драўляных". Але гэта было яшчэ да 1 кастрычніка. З гэтага дня, як вядома, уступіла ў дзеянне распараджэнне Міністэрства фінансаў РБ і Нацыянальнага банка, згодна з якім у прыгранічных з Літвой і Украінай раёнах зняты з абарачэння савецкі рубель, што выклікана ўвядзеннем суседнімі дзяржавамі ўласных грашовых адзінак. Зараз жа трэба чакаць, курс нашых "зайцаў" у адносінах да савецкага рубля павінен яшчэ больш узрасці, бо мясцовым жыхарам, кабператварыць "драўляныя" ў тавары, прыйдзецца падарожнічаць у глыб рэспублікі.

Такім чынам, прыходзіцца назіраць даволі незвычайную з'яву (няхай сабе часовую) — падзенне савецкага рубля не толькі ў адносінах да СКВ.

## МЫ ХОЧАМ ВАЛЮТЫ. АЛЕ І "ДРАЎЛЯНЫЯ" НЕ ПАШКОДЗЯЦЬ

*"Ці праўда, што Беларусь збіраецца выходзіць з рублёвай зоны?*

**Т. Дубнік, г.Вілейка".**

Як паведамілі ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, гэта пытанне вельмі складанае і будзе выносіцца на асеннюю сесію парламента. Беларусь павінна як мага хутчэй вызначыцца ў адносінах да рублёвай зоны: альбо мы дакументальна пацвярджаем свой выхад з яе (і тады нацыянальная валюта атрымлівае падтрымку Міжнароднага валютнага фонду), альбо падпісваем дагавор з Расіяй аб адзінай рублёвай зоне. Апошняе можа адбыцца толькі з-за льготных цэн на энерганосьбіты (але Расія афіцыйна заявіла аб тым, што ў бліжэйшы час падніме гэтыя цэны да сусветных). Так што гэты варыянт адпадае. Дарэчы, нашы суседзі, якія ўводзяць сваю нацыянальную валюту, дабіваюцца пагаднення з Расіяй, каб гандляваць з ёй за рублі. Можа здарыцца, што па гэтаму ж шляху пойдзе і Беларусь.




## ДЗЯРЖАВА ДАЛА, ДЗЯРЖАВА ЎЗЯЛА.

*"Дзяржава аб'явіла манаполію на продаж вінна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў. Ці азначае гэта, што яны з'явяцца ў дастатковай колькасці на паліцах дзяржаўных крамаў? І ці праўда, што гэтыя вырабы падаражаюць?*

**Г.Мароз, Мядзельскі раён".**

Як паведамілі нам у Міністэрстве гандлю, асобных змяненняў у адносінах да продажу вінна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў не адбудзецца, усё, як было, так і будзе (іншымі словамі, як не было вышэйназваных вырабаў у дзяржаўных крамах, так і не будзе). А пра тое, каб развітацца з надакучыўшымі ўсім талонамі на гарэлку і цыгарэты, і ўвогуле забудзьцеся (пра гэта таксама намякнулі ў Міністэрстве гандлю).

Як бачым, ніякіх змен у станоўчы бок не адбылося і ў бліжэйшы час не адбудзецца. Што датычыць падаражання віна, гарэлкі і цыгарэт, то па гэтаму пытанню нічога яшчэ не вырашалася.

## КАМУ ВЯРШКІ, КАМУ КАРЭНЬЧЫКІ!

*"Чуў, што амерыканскі кангрэс адобрыў законапраект аб выдзяленні нам у 1993 г. фінансавай дапамогі. Раскажыце аб гэтым, калі ласка, больш падрабязна.*

**Пятрусь Адамовіч. г. Глыбокае".**

Рашэнне аб такой фінансавай дапамозе было прынята ў палаце прадстаўнікоў кангрэса ЗША.

У цэлым былыя грамадзяне СССР змогуць разлічваць на падтрымку ў памеры 10 мільярдаў 417 мільёнаў даляраў.

Але вяршкі — 417 мільёнаў — атрымаюць тыя, хто жыве цяпер у Расіі і ў цэлым у СНД. Карэньчыкі — 10 мільярдаў — эмігрантам з СНД у Ізраіль для дапамогі ў іх добраўпарадкаванні.

Добры ўрок тым у СНД, хто да гэтага часу чакае ад амерыканцаў рэальнай дапамогі. Вашынгтон дапамагае толькі сваім — новым і старым ізраільцянам, ствараючы ім нармальныя ўмовы жыцця. А астатнія жыхары былога СССР, як бы ні запэўнівалі іх урады ў лаяльнасці да Белага дома, для амерыканцаў так і застануцца жыхарамі пераможанага ў "халоднай вайне" праціўніка, якім дастаткова кінуць костку.




## ЯШЧЭ АДНА "...ЗАЦЫЯ"

*"У Расіі ўжо раздаюць прыватызацыйныя чэкі (ваўчары). Ходзяць чуткі, што і ў нас іх ужо друкуюць у адной з друкарняў Мінска...*

**Барысаў, г.Астравец".**

Чуткі пра ўвядзенне прыватызацыйных чэкаў у нашай рэспубліцы сапраўды маюць месца. Але, як паведаміў Аляксандр Іванавіч Ягораў, вядучы спецыяліст аддзела раздзяржаўлення ўпраўлення каштоўных папер Міністэрства фінансаў Беларусі, пакуль няма закона аб прыватызацыі, пра ўвядзенне ваўчараў гаварыць яшчэ рана. Праект такога закона ўнесены на парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета пад нумарам 14. І разглядацца ён будзе дзесьці ў лістападзе. Калі праект закона "пройдзе", то патрэбна будзе яшчэ як мінімум два месяцы на яго ажыццяўленне. Так што калі і будуць у нас прыватызацыйныя чэкі, дык не раней наступнага года.

Пакуль жа мяркуецца, што кошт аднаго ваўчара будзе прыкладна 12000 рублёў. А выдавацца яны будуць ці ў залежнасці ад працоўнага стажу, ці ў залежнасці ад узросту чалавека. Але ўсё гэта яшчэ толькі мяркуецца.

Што датычыць друкавання прыватызацыйных чэкаў у адной з друкарняў Мінска, то, як сказаў А.І.Ягораў, такога быць не можа. Па той простай прычыне, што для такой справы патрэбны вялікія грошы, а Міністэрства фінансаў грошай не выдзяляла.




## ДЗІЦЯЧАЕ ХАРЧАВАННЕ — БЯСПЛАТНА НЕ ДЛЯ ЎСІХ. А ЧАМУ?

*"Хацелася б даведацца, якія катэгорыі насельніцтва могуць сёння бясплатна атрымліваць дзіцячае харчаванне і на якой падставе ім прадастаўляецца гэта права.*

**М.Прыгожая, г.Віцебск".**

Згодна з інструкцыяй Міністэрства аховы здароўя СССР № 02-14/6-14 ад 4 лютага 1991 года, якая дзейнічае да гэтага часу, а таксама з пастановай № 495 Савета Міністраў Беларусі ад 28 снежня 1991 года, права на бясплатнае забеспячэнне малочнымі сумесямі і іншымі прадуктамі дзіцячага харчавання маюць толькі мнагадзетныя (трое і больш дзяцей) і малазабяспечаныя сем'і, прычым харчаванне гэтае выдзяляецца толькі, пакуль дзіцяці не споўніцца 2 гады.

Якія ж сем'і лічацца малазабяспечанымі? Існуе адпаведны дакумент Міністэрства аховы здароўя РБ № 03-117/3199 аб парадку падліку сярэдняга сукупнага прыбытку сямейства, ён, гэты прыбытак, вызначаецца па даходах сям'і за два папярэднія месяцы да моманту звяртання з мэтай атрымаць дзіцячае харчаванне. Па выніках падлікаў складаецца даведка, якую маці з малазабяспечанай сям'і павінна адпраўляць кожныя 2 месяцы. Права на атрыманне бясплатнага дзіцячага харчавання дзеткі маюць толькі тады, калі на кожнага члена іх сям'і прыходзіцца менш як 50 працэнтаў мінімальнага заробку. Дарэчы, пры падліку прыбытку на кожнага члена дзеці-ўтрыманцы, старэйшыя за 18 год, не ўлічваюцца. Пры падліку ж агульнага прыбытку сям'і бяруцца ў разлік, акрамя заробкаў бацькоў (вядома, калі бацькі зарабляюць), усе віды пенсій, грашовых дапамог, а таксама стыпендыі і аліменты на дзяцей.

## ВІТАМІНЧЫКІ? У САДЗЕ-АГАРОДЗЕ!..

*"Некалькі гадоў назад быў узяты курс на агульную вітамінізацыю насельніцтва. Што гэта такое і як справа з вітамінізацыяй праходзіць сёння?*

**Г.Кісялёва, Пінскі раён".**

Як паведамілі нам у Галоўным упраўленні медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, праграма па вітамінізацыі насельніцтва сапраўды была прынята (у той час яшчэ існаваў Савецкі Саюз). Тады было вырашана пашырыць вытворчасць па выпуску полівітамінаў. У Беларусь апошнія паступалі з іншых рэспублік Савецкага Саюза.

У нашай жа рэспубліцы сыравіннай базы для вытворчасці вітамінаў няма, а таму пасля распаду СССР Беларусь апынулася ў вельмі нялёгкім становішчы.

Але не трэба адчайвацца. У нашай рэспубліцы ўжо створана база для вытворчасці вітамінаў. Хай пакуль невялікая, але яна ёсць. Пакуль жа вітамінізацыя праходзіць у дзіцячых садках і школах Беларусі. А астатнім жа, як параілі ў Міністэрстве аховы здароўя, неабходна адно: есці садавіну і агародніну.

## БІРЖАВАЯ ЛІХАМАНКА.

*"Зараз, куды ні кінься, — усюды розныя біржы. А адкуль біржы прыйшлі да нас? Якая ў іх гісторыя?*

**І. Скакун, г. Гродна"**

У Расіі біржы з'явіліся ўпершыню яшчэ пры Пятру Першым. Неяк ён зазірнуў на біржу ў Амстэрдаме і, вырашыўшы, што справа гэта добрая, выдаў указ аб заснаванні біржы ў Санкт-Пецярбургу. Праз некаторы час на беразе Нявы з'явіўся адпаведны будынак. Купцы, якія прывыклі да кірмашовай вольніцы і баяліся гэтага новаўвядзення, па загаду цара прыводзіліся на біржу сілай. Пасля смерці Пятра Першага яго дзецішча прыйшло ў заняпад...

Адраджэнне, а затым і росквіт рускай біржы пачынаецца пасля ўжо 1861 года — пасля зямельнай рэформы. За некалькі дзесяцігоддзяў колькасць біржаў узрасла да 15 (гэта было больш, чым у любой іншай дзяржаве Еўропы). Але для Расіі і гэта было мала, а таму ў пачатку XX стагоддзя было адкрыта ўжо больш чым сто біржаў.

На пачатку стагоддзя амаль усюды з'явіліся саветы біржавага гандлю. Была створана і Усерасійская біржавая арганізацыя, да меркаванняў якой прыслухоўваліся цар і ўрад.

У нас жа на Беларусі біржы з'явіліся прыкладна ў канцы мінулага стагоддзя, калі Беларусь уваходзіла ў састаў Расіі ў якасці Паўночна-Заходняга краю.

**На пытанні адказвалі: Сяргей Вішнеўскі, Віталь Далідовіч і Франц Лявіцкі. (тэл. 32-13-04).**

*"Мне вельмі цяжка ў гэтай аўдыторыі прыкінуцца кім-небудзь", — дастаткова шчыра заявіў Станіслаў Шушкевіч пад дахам Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе прайшла ягоная сустрэча з выкладчыкамі, супрацоўнікамі і студэнтамі. Сярод шэрагаў іншых, Старшыня Вярхоўнага Савета адказаў і на пытанні "Чырвонай змены".*

# «МЫ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ НА ШЛЯХУ ДА САМАСТОЙНАЙ ДЗЯРЖАВЫ...»



**– Вашыя адносіны да спадара Гарбачова?**

— Паважлівыя. Я з Міхаілам Сяргеевічам даўно пазнаёміўся. Па сутнасці, нашыя палітычныя дасягненні — гэта вынікі ягонай дзейнасці. Не трэба на гэта забывацца і, лічу, за здабыткі Гарбачову можна паставіць манумент. Я нават унёс бы пэўныя грошы, калі б такі збор распачаўся. Але было шмат памылак. І найбольш мне не падабаецца, што ён распачаў іншым раіць рабіць тое, што яму раілі рабіць, але ён не рабіў. У эканоміцы патрэбны прафесіяналы, а не чыстыя палітыкі ці ідэолагі. Яшчэ год таму, калі мы прыходзілі на Дзяржсавет, то нават сем чалавек не маглі паўплываць на рашэнне, прынятае Гарбачовым. У рэшце рэшт гэта прывяло да таго, што Садружнасць стала лепшай формай інтэграцыі, якую можна было дасягнуць у тых умовах. А калі б яшчэ працягнулі, баюся, што і СНД было б немагчыма. Нядаўна сустрэўся з Гарбачовым у Нямеччыне. Мы ветліва паставіліся адзін да аднаго. Еўропа, і Нямеччына ў прыватнасці, гатова насіць яго на руках. Сам жа ён разглядае сябе як Прэзідэнта Злучаных Штатаў Свету. Ён дужы даваць усім парады і лёгка за мяжой знаходзіць тую аўдыторыю, якая яго шалёна паважае. Гэта я бачу на ўласныя вочы. І апошняе. Мяне, напрыклад, абражае, што Гарбачоў згадзіўся з прапановай 141 парламента свету, якія прапанавалі яму ўзначальваць міжнароднае экалагічнае таварыства "Зялёны Крыж". Тое, што ўтойвалася менавіта Гарбачовым па Чарнобылю, не дае яму маральнага права займаць гэткую пасаду.

**– Ва ўрадзе востра стаіць пытанне аб карупцыі. Яму ж самому вядома, што супрацоўнікі міністэрства толькі за тое, што падпісваюць адпаведныя паперы, звязаныя з будаўніцтвам у Шчомысліцы, атрымалі ад нашага універсітэта зямельныя надзелы.**

— Вось добра, што я не атрымаў там участка, хаця і вельмі хацеў. У адваротным выпадку мне было б надзвычай цяжка адказваць на гэта пытанне. Тут ёсць, напэўна, састаў злачынства, калі чалавек скарыстоўвае сваё службовае становішча для атрымання асабняка ў мяжы горада. Што тычыцца карупцыі, дык тут пакуль што дзейсных мер не бачу. Думаю, мы хутка станем сведкамі больш выніковых захадаў такога плана.

**– БНФ пад час выбараў падтрымліваў Вашу кандыдатуру. На каго Вы цяпер апіраецеся ў Вярхоўным Савеце, ці ёсць у Вас каманда?**

— Калі гаворка ідзе пра дэпутацкую каманду, дык яна, напэўна, невялікая. Іншая справа, каманда ўвогуле, так бы мовіць, "сэнсавая" каманда — яна ўвесь час павялічваецца і многія універсітэтчыкі маюць да гэтага дачыненне. Наконт жа ўласнай палітычнай лініі хочацца сказаць:"Давайце абвесцім мараторый на тое супрацьстаянне, якое сёння існуе".

**– Колькі пасольстваў РБ у замежных дзяржавах і як гэта адбіваецца на бюджэце рэспублікі?**

— Пасольстваў можна было б стварыць безліч. Але мы стварылі дакладна столькі, колькі дазваляюць нам нашыя грошы, і такім чынам, каб прыбыткі ад дзейнасці гэтых установаў перабольшвалі выдаткі: пасольствы вядуць шэраг камерцыйных спраў. Такім чынам, тут патрэбен ашчадны разлік. Мы — не такая багатая дзяржава на сёння. Маем пасольства ў Польшчы, уласных прадстаўнікоў у Вашынгтоне, Нью-Йорку, Жэневе, Парыжы... Ёсць і больш простае выйсце. Напрыклад, у Аўстраліі мы можам дамовіцца з тамтэйшым беларусам, каб за пэўныя грошы ён прадстаўляў у гэтай дзяржаве інтарэсы Беларусі.

**– Ці атрымала рэспубліка сваю долю залатога запасу былога СССР?**

— Не, не атрымала!

**– Шаноўны пан Старшыня, як Вы ставіцеся да артыкула Пазьняка ў "Народнай газеце"?**

— Спакойна. Ён там адзін абзац, як звычайна, прысвячае мне. Я не такі прымітыў, якім уяўляюся спадару Пазьняку.

**– Чым была выклікана ваша крытыка ў адрас Міністэрства замежных спраў?**

— Вельмі шкадую, што гэты інцыдэнт перайшоў на старонкі газет. На чарговым пасяджэнні Саўміна, пра якое, як я спадзяваўся, будзе пэўнае афіцыйнае камюніке, шмат крытыкаваўся дакумент, дарэчы, з грыфам "сакрэтна". Гаворка ішла пра недахопы структур, спарадзіўшых гэтую паперу. Аднак са звычайнай нарады атрымалася нейкая надуманая праблема. Апошняя ў сваю чаргу абрасла чуткамі пра кадравыя змены. Канешне, ёсць шэраг пазіцый, па якіх нельга быць задаволеным дзейнасцю МЗС, але, улічваючы крытыку, яно апошнім часам пачало рухацца больш інтэнсіўна і, думаю, у хуткім часе выправіць хібы ў сваёй працы.

**– Чаму Вярхоўны Савет рэспублікі і ягоны Прэзідыум робяць усё магчымае для таго, каб праігнараваць волю 440 тысяч грамадзян Беларусі да правядзення рэферэндуму?**

— Я не ведаю, хто і што ігнаруе. Для мяне іншага падыходу няма: рэферэндум неабходна правесці. Няма пошуку аніякіх зачэпак, каб адмяніць яго. Але існуе праблема — змест таго пытання, якое пастаўлена на рэферэндум. Вывучыце, калі ласка, вынікі папярэдняга рэферэндуму аб захаванні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. 85 працэнтаў грамадзян аддалі свой голас за захаванне СССР. На Украіне, пасля нармальнай пастаноўкі пытання — амаль 90 працэнтаў галасоўшчыкаў з гэткай жа катэгарычнасцю выказаліся "супраць". Мы не маем маральнага права мудрагелістым пытаннем уводзіць народ у зман.

**– Ці не падаяце Вы дрэнны прыклад дзяржаўным супрацоўнікам, калі на сустрэчах з выбаршчыкамі, на прэс-канферэнцыях пераходзіце на замежную мову, калі на гэтай мове гучыць пытанне?**

—Добра, я ўлічу вашу крытыку і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце на рускую мову пераходзіць не буду. Але што тычыцца іншых аўдыторый, то дазвольце мне гаварыць на той мове, на якой мяне лепш разумеюць.

**– Магчыма, Беларусі варта ўвайсці ў НАТО.**

— Па інерцыі, пасля скасавання СССР, мы засталіся ў старым Саюзе, маецца на ўвазе вайсковы саюз. Калі мы з яго выйдзем, то ўжо не будзем мець права ўступіць у нейкі іншы ваенны блок: наш канстытуцыйны закон забараняе гэта рабіць. Нейтралітэт, які б ён ні быў (швейцарскі, аўстрыйскі), прадугледжвае няўдзел у вайсковым саюзах. На апошнім будуецца ваенная дактрына Беларусі.

**– Чаму Вы не зацікаўлены ва ўвядзенні беларускай нацыянальнай валюты? Вялікая ганьба карыстацца ў незалежнай дзяржаве грашовай адзінкай неіснуючага СССР з выявай Маскоўскага Крамля і Ульянава-Леніна (студэнт хімфака).**

— Вы — малады чалавек, а я, ведаеце, ужо не вельмі. Калі быў у вашым узросце, то меркаваў гэтаксама: дзядзькі, якія не разумеюць таго, што разумею я — дрэнныя людзі. Што да выяў Крамля і Леніна... Дык усе імі карыстаюцца пакуль што. Тут жа важна, каб функцыя грашовай адзінкі выконвалася. Мы нават абмяркоўвалі праект скарыстання старой гэдээраўскай валюты. Тое, што на грошах ёсць выява Крамля і Леніна, — не ганьба, ганьба, калі ўвядзём уласную валюту, а яна ўраз абясцэніцца. Новую валюту можна ўводзіць тады, калі ёсць больш-менш стабільная эканоміка. Справа не ў тым, каб надрукаваць грошы. На гэта патрэбны пэўныя выдаткі, але бюджэт рэспублікі можа іх вытрываць. Да таго ж, нам парукай гарантыі міжнародных валютных арганізацый — іхні стабілізацыйны фонд. Але нават усяго гэтага мала. Уявіце, мы ўводзім уласныя грошы, Расія ў адказ — сусветныя цэны ў СКВ, напрыклад, на тую ж нафту. Такім чынам, пакуль што мы не маем права ўвесці беларускую валюту, але ўжо да гэтага падрыхтаваныя. Больш таго, Расія нас фактычна падштурхоўвае да гэтага кроку.

**– "Чырвоная змена" і газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь" заснавалі часопіс маладых літаратараў "Першацьвет". На якую рэальную дапамогу могуць разлічваць маладыя творчыя сілы?**

— Толькі на законную дапамогу. Я — прыхільнік актыўнай падтрымкі беларускамоўных выданняў. Вярхоўны Савет не заўсёды са мной згодны ў гэтым. Але, спадзяюся, зрухі будуць. Мне здаецца, трэба шукаць сродкі для падтрымкі маладых літаратараў.

**– Ці не надакучае Вам настальгія па настаўніцтву, па навуковай дзейнасці?**

— Часам раніцай прачынаюся і думаю — трэба бегчы ва універсітэт. Калі ж пратру вочы, бачу... не трэба.

**– А гэта праўда, што Вы – паляк?**

— 1/16 частка маёй крыві — польская. Мая бабка, па лініі маці, была каталічкай. Не бачу ў азначаным анічога заганнага, бо надзвычай паважаю гэты высакародны народ. А цяпер ужо й не ведаю што рабіць, бо мая жонка — напаўукраінка, напаўрасіянка... Дык можа мне там шукаць палітычнага прыстанку... Увогуле ганаруся тым, што на кафедры, якую я ўзначальваў 20 гадоў, не было ніякіх няшчырых адносін да людзей любой нацыянальнасці. І большасць гэтых людзей не дасць мне схлусіць, бо сядзіць у гэтай зале.

**– Некаторыя Вас лічаць паслугачам таталітарнай сістэмы?**

— Няхай сабе лічаць. Мяне вельмі цяжка зрабіць чыімсьці слугой, хіба што народа.

**– Апошнім часам усё часцей чуваць пра сутыкненні паміж Шушкевічам і Кебічам, увогуле Вярхоўным Саветам і ўрадам. Ці маюць пад сабой сур'ёзны грунт гэтыя, магчыма, чуткі, і, дарэчы, газетныя артыкулы?**

— Друк у нас свабодны... Вярхоўны Савет лічыць, што ўрад мог бы лепей працаваць. Урад, адпаведна, не задаволены працай парламента. Супрацьстаянне паміж намі няма. Увогуле трэба знаходзіць шляхі вырашэння праблем, а не выяўлення адмоўных рысаў апанентаў.

**– На якой мове Вы гутарыце па-за працай, у сям'і?**

— Дома размаўляю пераважна па-руску. На жаль, бракуе часу, каб навучыць беларускай мове сына (дачка дарослая, з ёю якраз магу размаўляць на роднай мове). Але нічога, праблемы тут няма. У школках цяпер выкладаюць па-беларуску, там абавязкова навучаць.

**– Збіраецца Беларусь святкаваць 180-годдзе выгнання французскага войска з Беларусі?**

— Па шчырасці, не задумваўся над гэтым. Відаць, трэба параіцца наконт гэтага з французскім паслом (смяецца). Можна нават французаў запрасіць на такое мерапрыемства.

**– Вы действительно считаете, что существует такое государство – "Рэспубліка Беларусь"? (захоўваем мову арыгінала. – ад рэд.).**

—Сумна мне пра гэта вам гаварыць, але вы ў значнай ступені маеце рацыю. Мы знаходзімся пакуль што толькі на шляху да пабудовы самастойнай дзяржавы. Мы, крок за крокам ідзём да сапраўднай незалежнасці. Перакананы: нашаму народу зажывецца лепей.

Занатавала
Алена АГІБАЛАВА.

# ГАРЧЫЧНІК









Ну як яны не разумеюць, што коней на пераправе не мяняюць!




Малюнкі Віктара ДУБОВІКА, з газеты "ЛИТЕРАТУРНАЯ РОССИЯ" і невядомага АЎТАРА.









Свет становіцца ўсё больш жорсткім і бязлітасным. Над многімі навіс змрочны цень беспрацоўя, якое ў першую чаргу закранае моладзь. Падлеткі, якія скончылі сярэднюю школу або дзевяць класаў, блукаюць ад завода да завода, спадзеючыся знайсці працу.

Малое вучэбна-вытворчае прадпрыемства "Саіл", якое стварыла Ала Іванаўна Сядушкіна, у адрозненне ад іншых, прымае на працу толькі падлеткаў. Праца нескладаная — дзеці шыюць мяккія цацкі. Профіль поўнасцю адпавядае дэвізу прадпрыемства — "Дзеці — дзецям". Тут працуе каля трохсот дзяцей, у тым ліку шмат хлопцаў. Зарплату атрымліваюць ад колькасці выпушчанай прадукцыі, ніхто нікога ў шыю не гоніць, колькі зробіш, столькі і атрымаеш. Атрымліваюць пакуль не вельмі шмат, да паўтары тысячы, на большае цацак рукамі не пашыеш.

У тым, каб дзеці былі ўладкаваны, зацікаўлены цэнтр занятасці насельніцтва Савецкага раёна і прыкладае усё старанне каб дапамагчы прадпрыемству, якое становіцца на ногі. Самая галоўная праблема — гэта памяшканне; размясціць трыста дзяцей на 130 кв.м, пагадзіцеся, не проста, праблема хоць марудна, але, здаецца, вырашаецца.

Тут не толькі працуюць, але і вучацца. У планах Алы Іванаўны адкрыць участак разьбы і мастацкага роспісу па дрэве, навучыць дзяцей вязаць.

Цацкі з дзіцячых рук атрымліваюцца вельмі прыгожыя і карыстаюцца поспехам. Плануюць прадаваць іх і на Захадзе, рэалізуючы прыбытак на павелічэнне зарплаты і пашырэнне вытворчасці.

Фотарэпартаж Сяргея БРУШКО.





# МЫТНЫ "ПАРОЛЬ",

## КАЛІ ВЫ ЯГО НЕ ВЕДАЕЦЕ, НЕ ЎБАЧЫЦЬ ВАМ ЗАМЕЖЖА, ЯК УЛАСНЫХ ВУШЭЙ




Вось ужо каторы год, не сціхаючы, палыхае бум, які з поўным правам можна назваць польскім. Калі сярод жыхароў рэспублікі і знойдуцца яшчэ людзі, што ні разу не пераязджалі беларуска-польскую мяжу, то па агульнай колькасці наведванняў у Рэчы Паспалітай пабывалі, напэўна, усе жыхары Беларусі.Для адных — гэта разавая паездка з мэтай апрануць сябе і сям'ю па апошняй модзе, для другіх — грунтоўны і даволі прыбытковы бізнес. Так, слова спекуляцыя больш амаль не ўжываецца ў нашым лексіконе. На змену яму прыйшло новае — бізнес, прыбытак у якім, як вядома, і ствараецца розніцай коштаў альбо паміж цаной тавару, неабходнай для яго вытворчасці і прадажнай, альбо паміж беларускім і польскім рынкамі, напрыклад.

Нельга не пагадзіцца з адным: такі бізнес на руку ўсім. І "разавым гандлярам", і "бізнесменам", і беларускаму рынку, і турыстычным арганізацыям, і палякам, і...належным службам.

Вось пра гэта і пагаворым.

Калі вы купляеце ваўчар у турыстычным агенцтве — гэта адна справа і ўсю мароку і галаўны боль, звязаны з пераездам праз мяжу турыстычнага аўтобуса, бяруць на сябе суправаджаючыя, супрацоўнікі агенцтва. Але зусім іншая справа, калі ваша група выбралася ў вандроўку самастойна, ні ад каго незалежна і ніхто ваш аўтобус не падштурхоўвае ў бок польскай мытні.

Сітуацыя ля мяжы складваецца сёння такая, што калі ўсе, хто жадае прарвацца ў Польшчу, стануць са сваімі аўтобусамі ў чаргу, то "хвост" яе ахіне Брэст па ўсёй кальцавой дарозе. Дзеля гэтага і была ўведзена сістэма кодаў. Група, якая збіраецца ў бліжэйшы час выехаць у Польшчу, павінна звярнуцца ў Дзяржаўны камітэт знешнеэканамічных сувязей Савета Міністраў РБ, дзе ваш аўтобус атрымае свой код, згодна з якім (у адпаведны дзень і час) і будзе праходзіць мяжу.

Здавалася б, як выдатна! Заплаціў, атрымай код: не трэба стаяць па некалькі сутак у чарзе, спаць у аўтобусе, харчавацца сухама і хвалявацца: ці паспееш вярнуцца ў патрэбны дзень на працу? Толькі справа ў тым, што атрымаць гэты кодавы нумар вашай самапальнай групе тут, у Мінску, у вышэйназваным камітэце амаль немагчыма — амаль усе іх размяркоўваюць па буйных турыстычных фірмах, заводах і прадпрыемствах. Калі і застаюцца 2—3 вольныя коды, то за іх ледзь не бойка ўсчыняецца паміж менш буйнымі альбо незалежнымі структурамі.

Праўда, ёсць яшчэ адна фірма, якая можа за адпаведную плату прыдбаць гэты злашчасны код. Знаходзіцца гэтая фірма ў Брэсце, назву мае "Мытны сервіс", а плата гэтая складае 5 тысяч рублёў з аўтобуса. Прысылайце заяўку, плаціце грошы і— атрымлівайце код.

Толькі далёка не ўсе ведаюць пра існаванне гэтай фірмы. І таму, безвынікова пабегаўшы ў Савет Міністраў пару месяцаў, людзі выязджаюць у бок Брэста без кода — "на халяву". Але дарэмна: іх аўтобус і блізка не падпусцяць да першага паста без наяўнасці кода. І заварочваюць на бальшак, які ізноў жа вядзе да канторы "Мытнага сервісу". Там, заплаціўшы суму ўдвая большую за звычайную (10 тысяч рублёў), вы, можа, і атрымаеце гэты абрыдлы ўжо код.

Я не памыліўся, напісаўшы "можа". 95 працэнтаў верагоднасці, што вы яго не атрымаеце. Нягледзячы на двайную суму, асабістае абаянне і прыніжаныя просьбы дапамагчы. "Мытня перагружана,— тлумачаць непахісныя супрацоўнікі "Сервісу". — Ды і заявак у нас столькі, што ваш аўтобус і вашыя грошы нам не патрэбныя".

Тлумачце, маліце, прасіце — безвынікова. 95 працэнтаў верагоднасці, што да вашых слоў застануцца глухімі. Але можа і пашэнціць. Толькі ці скончацца на гэтым усе вашыя беды? Як бы не так. Пад'ехаўшы да першага паста і прад'явіўшы дазвол на нечарговы праезд, у адказ пачуеце:

— Спачатку аўтобусы з кодам, потым — з дазволам!

— Але ж мы заплацілі грошы!

— Вашыя праблемы. Я сказаў: з дазволам у апошнюю чаргу... калі паспеем.

Але свой тарыф ёсць і тут, калі вы жадаеце паспець — 20 бутэлек гарэлкі з аўтобуса. І вось толькі тады, з палягчэўшымі пасля мытнага дагляду сумкамі, вы маеце грунтоўную надзею зрабіць крок на польскую зямлю.

Дзеля чаго я завёў гэтую гаворку? Безумоўна, не для таго, каб папалохаць тых, хто збіраецца ў Польшчу, цяжкай і вельмі (як высвятляецца) дарагой дарогаю. Гэта не сакрэт. Пытанне, што вынікае, больш нагадвае рытарычнае, на якое адказ наўрад ці магчыма атрымаць.

Памятаеце старую песню "З чаго пачынаецца Радзіма?" З бярозкі, з купіны бліжэйшага балота, са сваёй малагабарытнай кватэры? А можа з адчування сябе Чалавекам на гэтай зямлі, ля яе мяжы?

**Язэп КРЫУСКІ.**

# ПРАСВЕТ... У КАНЦЫ ТРУБЫ

**У МІНСКАЙ КАНАЛІЗАЦЫІ НЯМА НІ БОМЖАЎ, НІ ПАЦУКОЎ – гэта з поўнай адказнасцю сцвярджае галоўны інжынер Упраўлення "Мінскачыствод" Міхаіл БОНДАРАЎ.**

Вялізны сучасны горад нагадвае "Чорны квадрат" Казіміра Малевіча з усімі яго малекулярнымі сувязямі, якія парушаць немагчыма. Скранеш адну малекулу — пацягнеш за вяровачку, на канцы якой анархія. Дарэчы, наконт "пацягнуць за вяровачку". Многія з мінчукоў думаюць, што ўвесь працэс ачысткі сцёкавых вод заключаецца ў працэсе карыстання зліўным бачком. Вядома, гэта жарт, але мала хто ўяўляе сабе, якая складаная сістэма — сучасная каналізацыя...

Пачнём з таго, што "Мінскачыствод" — гаспадарка буйная не толькі па мэтах і задачах, але і ў геаграфічным плане. Бараўляны, Калодзішчы, Ратамка, Сосны — крайнія кропкі сістэмы ачысткі. У Мінску прамысловыя і бытавыя адходы ачышчаюцца разам. На Захадзе, ды і ў некаторых гарадах СНД, яны раздзяляюцца, што дае магчымасць прымяняць бытавыя адходы ў якасці ўгнаенняў. На жаль, у нас зусім па-іншаму.

36 каналізацыйных станцый перапампоўваюць адходы чалавечай дзейнасці на Мінскую станцыю аэрацыі. (З Аэрафлотам не блытаць). Там у суткі павінна ачышчацца 670 тысяч кубаметраў адходаў. Рака з гэтых рэчываў будзе такой жа шырыні, як Свіслач.

Існуюць дзве ступені ачысткі: механічная і біялагічная. Першая ўяўляе сабой адстойнікі, дзе ўсё цяжкае і не растварымае асядае на дно. Тое, што застаецца (вада), праходзіць стадыю біяачышчэння. Менавіта тут чалавек найбольш поўна выкарыстоўвае магчымасці самой прыроды, якая ачышчае сама сябе. Глей — жывыя мікраарганізмы — акісляюць любую арганіку і робяць яе няшкоднай для чалавека. Вось якраз гэты глей выкарыстоўваецца на станцыі аэрацыі.

Затым вада зноў трапляе ў адстойнікі. Глей асядае на дно, а вада трапляе ў Свіслач.

Як ужо было сказана, праектная магутнасць усёй Мінскай сістэмы складае 670 тысяч кубаметраў у суткі. На самай жа справе праз яе праходзяць 860—870 тыс.куб. І вось тут пачынаюцца праблемы, пра якія трэба гаварыць і гучней, чым пра каналізацыйных бомжаў...

У каналізацыі Мінска дзве асноўныя праблемы: першая з іх — перагрузка. Станцыя аэрацыі была пабудавана ў 1964 годзе. З тых часоў яна значна пашырылася, але тэмпы будаўніцтва адстаюць ад росту нагрузкі. Цяпер жа сітуацыя складаецца зусім непрыемная: калі раней будаўнічыя арганізацыі не маглі асвоіць выдзеленыя сродкі, у апошнія часы і сродкаў не стала. Перагрузка ачышчальных збудаванняў — нізкая якасць ачысткі. Цяпер увесь гарадскі бруд праходзіць толькі першую ступень — механічную ачыстку, біялагічную ж... толькі 670 тысяч кубаметраў з 860.

У апошнія гады "Мінскачыствод" стаў мішэнню для крытыкі. Але давайце глянем аб'ектыўна: хіба толькі ад гэтай арганізацыі, якая сама ж і з'яўляецца санітарам горада, залежыць, якой чысціні вада будзе ў нашых рэках? Усё, што можна, усё, што ў яго сілах, "Мінскачыствод" робіць. Але яму патрэбна дапамога. І якраз вось тут выходзіць на першы план другая праблема — утылізацыя адходаў.

Пасля механічнага ачышчэння асадак у выглядзе прыроднага актыўнага глею павінен утылізавацца. Ёсць два спосабы ягонай апрацоўкі. Першы адбываецца ў цэху апрацоўкі асадка з дапамогай вакуум-фільтраў. Тое, што застаецца, захоўваецца ў магільніках, вада ж зноў вяртаецца ў тэхналагічны працэс. Другі спосаб — натуральная падсушка глею ў сажалках: глей застаецца, вада выпараецца. Здаецца, вельмі лагічная і надзейная сістэма. У чым жа праблема? А ў тым, што глей трэба кудысьці падзець! Ні для сажалак, ні для кар'ераў катастрафічна не хапае плошчаў: аблвыканкам не выдзяляе іх для патрэб горада. І другое. На Беларусі адсутнічаюць магільнікі для захавання шкодных рэчываў, рэшткаў тэхналагічнага працэсу. Многія заводы маюць свае ачышчальныя збудаванні і



шкодныя адходы спускаюць у тую ж самую гарадскую каналізацыю, у выніку чаго вельмі каштоўнае ўгнаенне — глей — становіцца цалкам бескарысным для сельскай гаспадаркі. Солі цяжкіх металаў, напрыклад, хрому, знішчае глей. А ў той жа самай Маскве, якую мы так прызвычаіліся лаяць, прадпрыемствы не толькі не зліваюць свае адходы ў агульную каналізацыю, але тая самая каналізацыя вывозіць свой прадукт за сотні кіламетраў — не на звалку, а на палеткі. Попыт ёсць...

У чым жа рашэнне такой набалелай праблемы? Няўжо праз некалькі соцень гадоў уся зямля пакрыецца кар'ерамі і сажалкамі з ...? Праблему такую "Мінскачыствод" не выцягне. Хаця і склаўшы рукі не сядзіць. Спрабавалі адходы высушваць, каб паменшыць іх аб'ём, выдумлялі нават печы для гэтага... Але куды ж падзець дым, газ, які выдзяляецца ў працэсе сушкі? Паліць глей? Тое ж самае. Энергіі для гарэння хапае, але — дым! Дык куды ж падзець адходы? Бо зарасцём! Мала прыемнага глядзець на возера, прабачце мне, чалавечых адходаў. Праблема іх утылізацыі — праблема дзяржаўная. З 630 тон штодзённага асадку атрымліваецца 160 тон сухога рэчыва. Спрабавалі прымяняць яго ў якасці замяняльніка даламітавай мукі, што прымяняецца ў вытворчасці асфальта. Але гэта — мізэр! Няма тэхналогій, якія далі б магчымасць выкарыстоўваць адходы ў прамысловых маштабах.

Дзе ж вы, шаноўныя навукоўцы? Вы ж таксама ў прыбіральню ходзіце і за вяровачку цягнеце ў патрэбных выпадках! Галоўны інжынер Міхаіл Бондараў на акадэмічную навуку ў крыўдзе. Не дапамагае яна! І калі зможа распрацаваць нейкую тэхналогію, запатрабуе грошы, якіх у воднай гаспадаркі проста няма. Вы не ўяўляеце сабе, якія складаныя ў інжынерным плане ачышчальныя збудаванні! Гэта горад у горадзе, дакладней пад горадам, трубы, у якіх можа свабодна прайсці чалавек... Дарэчы, сістэма гэтых труб сакрэтная. Да яе мае дачыненне толькі некалькі чалавек з тых, хто непасрэдна працуе ў сістэме водаачышчэння. Сапраўды, а раптам хто-небудзь вылічыць хуткасць плыні, даведаецца, якая труба вядзе... ну, напрыклад, пад Дзяржбанк, кіне гранату ва унітаз, нырне за ёй следам і, дачакаўшыся выбуху, спакойна вынесе сейф, які ўпадзе прама яму ў рукі...

Жарты жартамі, але каналізацыйныя трубы запоўнены вадою амаль што цалкам. Так што ні бомжы, ні пацукі там проста не прыжывуцца. Гэта вам не парыжскія катакомбы...

Здаецца, дробязная праблема. Тым жа, хто штодзённа ачышчае дрэнна пахнучае рэчыва з рашотак на каналізацыйных станцыях, яна такой не здаецца. Так што ў наступны раз, калі пойдзеце ў прыбіральню, задумайцеся...

По каналізацыі падарожнічаў
**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

### Навіны ад Гаўдэамуса

## БУДЗЬ ЗДАРОВЫ, СТУДЭНТ!

На пачатак гэтага года ў Мінску налічвалася 69770 студэнтаў дзённых і падрыхтоўчых аддзяленняў ВНУ. Цэлы горад у горадзе! Са сваімі традыцыямі, клопатамі, праблемамі. Абвяргаючы стэрэатып, зазначу, што "чароўная палавіна" складае значна менш, чым палову яго насельніцтва – каля 43 працэнтаў.

Мае студэнцкі "горад" і свой "дэпартамент аховы здароўя". Гэта паліклініка № 33 (студэнцкая). Са сваімі пытаннямі я звярнулася да "шэфа дэпартамента" – галоўнага ўрача Тамары Георгіеўны Міронавай.

— Ці адбіваюцца гады вучобы на здароўі студэнта?

– Вядома. Да апошніх курсаў павялічваецца колькасць захворванняў: страўнікавых і нервова-псіхічных. Але тут неабходна дадаць, што з кожным годам да нас прыходзяць усё больш і больш хворыя першакурснікі. Толькі 40 працэнтаў з іх можна назваць больш-менш здаровымі.

— Існуе меркаванне, што пад час студэнцтва шмат у каго моцна псуецца зрок...

– Мы такой тэндэнцыі не назіраем. Здаецца мне, сённяшнія студэнты не настолькі заўзята вучацца. Большасць псуе зрок яшчэ ў школе.

— Колькасць захворванняў расце. Вінаваціць Чарнобыль?..

– Калі вы дакажаце, што сённяшні эканамічны крызіс – вынік чарнобыльскай аварыі, я з вамі пагаджуся. Але асабіста я не стала б сцвярджаць так катэгарычна, што цяперашнія хваробы – вынік толькі радыяцыі. Прычын тут значна болей, і ўзаемасувязі куды больш складаныя. Студэнты – адна з найбольш безабаронных частак грамадства. Недастатковае харчаванне, цяжкія ўмовы жыцця: інтэрнацкае жыццё дужа спрыяе і распаўсюджанню хвароб.

— Якія ў вашай рабоце самыя вялікія цяжкасці?

– Як ні парадаксальна, гэта не недахоп сродкаў, абсталявання – матэрыяльная база ў нас нядрэнная. Самая вялікая цяжкасць – студэнты. Дакладней, іхняя медыцынская неадукаванасць, безадказнае стаўленне да ўласнага здароўя. Гэта ўласціва не толькі ім, але, збольшага, усяму нашаму грамадству. А студэнтаў даводзіцца літаральна цягнуць пад прымусам на прафілактычныя агляды. А, між тым, у выніку той жа флюраграфіі выяўляецца туберкулёз прыкладна ў 5 працэнтаў абследаваных. Гэта вельмі высокая лічба параўнальна з іншымі катэгорыямі насельніцтва.

**Гутарку вяла Воля АКУЛІЧ.**

## АБ'ЯВА ДЭКАНАТА

"На біялагічным і радыёфізічным факультэтах БДУ (Шчомысліца) з аўторка 13 кастрычніка да панядзелка 19 кастрычніка перапынены заняткі ў сувязі з нізкай тэмпературай у корпусе".

Аб'яву прыкладна такога зместу пабачылі студэнты вышэйпазначаных факультэтаў, з'явіўшыся на заняткі на пачатку кастрычніка.

Справа ў тым, што рамонт ацяпляльнага абсталявання мусіў быць праведзены яшчэ ў траўні. У красавіку нават адключылі гарачую ваду, закрануўшы пры гэтым інтэрнат № 3. З таго часу – ніякіх зрухаў.

А студэнты – мерзнуць.

**(Наш кар.)**

У прынцыпе, можна было абраць для гэтага матэрыялу форму звычайнай вагоннай гутаркі, калі пасля дзесятка партый у "падкіднога дурня" цікавасць да карт знікае і пачынаюцца гарачыя размовы "за палітыку". Але навошта выдумляць сітуацыю, калі ўсё значна прасцей: ідзеш па вуліцы, сустракаеш свайго старога знаёмага, вітаеш яго па-беларуску і чуеш у адказ: "Ты ко мне на этой "мове" не обращайся..." І, відаць, прыспеў час адказаць нашым упартым "русафілам" на некалькі пытанняў, якія часцей за ўсё ўзнікаюць тады, калі субяседнікі гутараць на розных мовах...




### Навошта жыхару Беларусі беларуская мова?

Урэшце, чаму б не паставіць пытанне так: "Навошта беларусу беларуская мова?". Памятаеце, яшчэ пад час гарбачоўскага перапісу насельніцтва з боку "нацыяналістаў" у бок "партакратаў" і наадварот несліся абвінавачванні ў, так бы казаць, прыпісках у адносінах да мовы. Паводле ўласнага вопыту перапісчыка, сцвярджаю: 70—80 працэнтаў менчукоў назвалі сваёй р о д н а й мовай менавіта беларускую. Тыя ж, хто лічыў сябе "рускамоўным", мусілі называць прычыну (хаця аб гэтым іх ніхто не прасіў): адны — з сям'і вайскоўцаў, другія — не на Беларусі нарадзіліся і жылі, трэція... Карацей кажучы, перапісаўшы тры вялізныя будыніны, ніводнага (!) не знайшоў я чалавека, які катэгарычна нашу мову не ўспрымаў. Дык у чым спрэчка? Няўжо толькі з-за нейкіх настальгічна-пастаральных пачуццяў называюць людзі родную мову роднай?

...На Полаччыне шмат курганоў. У пошуках аднаго з іх мне з сябрамі давялося блукаць па лесе не адну гадзіну. Хлопчык гадоў дванаццаці, у якога мы па-руску (сорам!) спыталі шляху, адказаў на чысцюткай беларускай мове: "Давайце, дзядзькі, я вас правяду, бо там сцяжынка дужа круткая"... І на той жа Полаччыне гарсавет прымае на сваім пасяджэнні рашэнне... аб неабходнасці двухмоўнасці!

Не варта ў соты раз паўтараць старыя аргументы барацьбітоў за родную мову. Яны былі пераканаўчымі тады, калі народ не быў яшчэ такім звар'яцелым ад безграшоўя, ад цэнаў, калі хаця б курыныя яйкі ды пельмені можна было набыць без цяжкасці. Факт застаецца фактам: чалавек у чарзе (а мо' й не ў чарзе, а ў валютнай краме) проста зашыпіць, калі яму пачнеш гаварыць пра адраджэнне мовы. Ох, які неспрыяльны момант зараз для беларусізацыі! Калі пачынаеш даказваць, што без мовы сваёй не можа быць аб'яднання нацыі, без аб'яднання нацыі не можа быць дзяржавы, без дзяржавы, моцнай і працаздольнай, не можа быць незалежнасці — чуеш у адказ: "А навошта нам яна, гэтая незалежнасць?"

### Навошта беларусу незалежнасць?

Шаноўныя чытачы! Вы хочаце быць свабоднымі? Дзіўнае пытанне! Многія з вас адкажуць проста: "Я б хоць Афрыцы прадаўся, абы грошы плацілі!" Так, але тады б вы афрыканскую мову вывучылі. Бясспрэчна. Што ж да таго, каму прадавацца... Можа, маё выказванне і разане каму-небудзь слых, але ці не прадаецца наша краіна суседняй? Не, гэта не тычыць адносін паміж людзьмі, паміж рускімі, беларусамі, славянамі ў рэшце рэшт. Гэта датычыць палітычных (чытай: эканамічных) інтарэсаў нашай Радзімы. І хаця не ўсе прымірыліся з развалам СССР — факт у наяўнасці. Ёсць краіна Расія і ёсць краіна Беларусь. Ёсць дзве дзяржавы, адна з якіх — валодае сыравінай, другая — перапрацоўчымі магчымасцямі. Няўдзячная справа высвятляць, людзі якой нацыянальнасці шукалі і здабывалі там нафту, тым не менш, я не магу пагадзіцца з тымі, хто сцвярджае: Беларусь не здолее выжыць, калі будзе вымушаная набываць расійскую сыравіну па рыначных цэнах. Што ж тады гаварыць пра Японію, якая зусім без рэсурсаў стала багацейшай у свеце! Самая галоўная наша каштоўнасць — не бульба і не радыеактыўная ялавічына, а людзі. Людзі, якія не ў такой ступені развучыліся працаваць, як іх усходнія суседзі. Прыклад? Калі ласка. Ездзілі мае сябры ў Расію, у Ленінградскую (С.-Пецярбургскую?) губерню. На вясковай вуліцы сустрэліся ім мясцовыя дзядзькі. "Хлопцы, дадайце паўста, вып'ем!". "А што за свята?" "Дык свінню закалолі". "А колькі ж важыць?" "Досыць, кілаграм восемдзесят!".. Ці патрэбны каментарыі? Калі свойская беларуская свіння ўстане на заднія капыты, яна зможа прагрызці дах свінушніка... Сапраўды вялікі рускі народ за дзесяцігоддзі настолькі празвычаіўся да напаўжабрацкага існавання, прызвычаіўся спадзявацца на дзядзьку, а не на сябе, што наша з вамі незалежнасць толькі паспрыяе адраджэнню Расіі, дапаможа яе народу ўзгадаць уласную годнасць, пачаць працаваць, а не штурмаваць вінна-гарэлачныя крамы.

Ці ж будзе хто спрачацца, калі я заяўлю, што паміж краінамі павінны быць раўнапраўныя эканамічныя адносіны, заснаваныя на ўзаемавыгадным гандлі? А як мы зможам пазбавіцца ад комплексу правінцыяльнай непаўнацэннасці, калі нават у самай блізкай да сэрца ды розуму галіне існасці — у мове — імкнемся ісці самым лёгкім шляхам? Запасы энергіі ў беларускага народа вялізныя. Беларуская мова не толькі не запатрабуе яе затрат, але наадварот — узбагаціць нашы крыніцы чыстай вадою. Тады і лічыцца з намі будуць, ды й мы самі ў сябе паверым. І не будзе стаяць пытанне, якое так востра абмяркоўваецца зараз паўсюль — ад Вярхоўнага Савета да заштатнага піў-бара.

### Навошта беларусу закон аб мовах?

Зыходзячы з рэчаіснасці, можна адназначна сцвярджаць: дзяржаўнае рэгуляванне моўнай палітыкі неабходнае. Мітынговы натоўп у будучыню не зазірае, ён жыве тым, што кідае ў яго гушчар чарговы трыбун. Час мітынгаў прайшоў. Ці не варта нырнуць глыбей?

І ў адносінах да закона ўвачавідкі — дзве альтэрнатывы: паступовасць і радыкалізм. Скажу адразу: у пытаннях мовы я не прыхільнік ні таго, ні другога шляху. Першы — паступовасць — спрыяе нядобразычліўцам беларускай мовы ў тым плане, што з часам праблема можа зайсці яшчэ глыбей, больш сіл запатрабуе лячэнне хваробы. Паступовасць неабходная толькі ў пытанні ў с е а г у л ь н а г а пераходу да карыстання беларускай мовай, бо п р ы м у с і ц ь чалавека размаўляць так, як ён не хоча, — значыць на корані загубіць усю справу адраджэння. Таксама і радыкалізм — хіба магчыма за адзін момант пераадолець наступствы дзесяцігоддзяў моўнага нігілізму, не выклікаўшы пры гэтым грамадскіх катаклізмаў? Дзе ж ён, той трэці шлях, пры якім і мэта будзе дасягнута, і крыві не пральецца? Гэты шлях — гарманічнае, прадуманае і мэтанакіраванае ўвядзенне мовы ва ўсе галіны жыцця. І пачынаць трэба, шаноўныя "шчырыя беларусы", з сябе. А тое паміж сабой мы размаўляем, а як спытае хто-сьці на вуліцы, як праехаць на Камароўку, — "Поезжайце, пожалуйста, на метро до плошчади Якуба Коласа". У такім выпадку ўсе нашы артыкулы, усе нашы заклікі ні да чаго не прывядуць. Не трэба саромецца!

У мяне — комплекс на шыльды. Калі бачу на краме, што яна крама, а не "магазин" — са здавальненнем заходжу. А калі ў Доме Гандлю, што амаль насупраць Дома Друку, чую замест "граждане покупатели" — "шаноўныя наведвальнікі", дык проста душа радуецца. Так, з крамаў таксама трэба пачынаць. Нават па першым часе даплачваць беларускамоўным прадаўцам, як настаўнікам, каб стымул быў. Потым гэта акупіцца. На сотні працэнтаў. Тады закон аб мовах стане проста непатрэбны. Зараз жа ён патрэбны як вада, як паветра — разумны, абгрунтаваны, гарманічны закон, што пры сваёй памяркоўнасці не грэбуе і радыкальнымі рашэннямі. Двухмоўнасць заб'е нас, пераўтворыць Беларусь у вечную правінцыю Расіі. А тады якая гаворка можа весціся аб партнёрстве? Абсурд!

### Дык чаго ж баяцца "рускамоўныя"?

Прачытаў недзе, што адна немка, якая ледзьве не ўсё жыццё пражыла ў Лацінскай Амерыцы, так і не знайшла часу вывучыць іспанскую мову. Навошта? Хіба яна стане размаўляць аб чым-небудзь з гэтымі "бруднымі туземцамі"? Нізавошта! Не хацелася б думаць, што тыя, хто адмаўляе нашу мову, ставяцца да беларусаў, як да людзей другога гатунку. Але калі ў краме "Глобус" у Мінску ў адказ на запыт наведвальніцы: "Пакажыце, калі ласка, "Прыгоды барона Мюнхгаўзена" чуеш: "Так они же на белорусском языке", становіцца проста нязёмка і крыўдна.

Дык з кім жа шчырыя беларусы будуць зводзіць рахункі, калі прыйдуць да ўлады? Няўжо з "афанацелымі" камуністамі, што клічуць народ на плошчу? Ці з тымі, хто на тую плошчу выйдзе? Лухта! Пакаранымі законам павінны быць толькі тыя, хто кіруючыся карыслівымі інтарэсамі, свядома змагаюцца супраць дзяржаўных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, а не які-небудзь дзядзька, што папросіць у кіёску "пачку сигарет", а не "пачак цыгарэт".

"Рускамоўныя" баяцца не беларускай мовы, а таго, што іх будуць п р ы м у ш а ц ь ёю карыстацца. А прымушаць ніхто не будзе. Самі зразумеюць, калі дзеткі іхнія прыйдуць са школы і скажуць: "Добры дзень, тата! Добры дзень, маці!"

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

Падпіска-93 Наш індэкс 63129.

# КРАІНА БЕЗ ПРЭЗІДЭНТА



**У вераснёўскім № 37 маскоўскага штотыднёвіка "Столица" выйшаў кантраверсійны артыкул Э.Дарожкіна "Краіна без прэзідэнта", дзе гаворка ідзе не пра што іншае, як пра Беларусь, пра Мінск. Што ж думае пра міфічную сталіцу СНД сталіца былая, якая даверае выказваць сваю кардынальную пазіцыю універсальнаму аўтару, які, скажам, ведае і Афганістан (праўда, па матэрыялах заходняга друку), і Беларусь (праўда, па матэрыялах тыднёвай камандзіроўкі галопам)? Пра гэта беларускаму чытачу не лішняе ведаць, таму мы прапануем на сваіх старонках хоць бы скарочаны варыянт той публікацыі.**

Мільённы беларускі народ не вельмі пячэцца аб сваёй Беларушчыне, амаль не ўсведамляе сябе з вялікай літары Беларусам. І ўжо тым болей не ўспрымае ён намёку на "крата", што пад права беларускае падрываецца. А намёк гэты — на Расію.

...Колькі ні пытаў я ў мінчан пра іх адносіны да "вялікага брата", так нічога і не даведаўся. *Няма ў мінчан адносін да Расіі. Затое ёсць у іх Беларускае* тэлебачанне, якое ніхто не глядзіць з-за недапушчальнага яго непрафесіяналізму і — зрэшты — беларускай мовы. Ёсць і газета "Вечерний Минск", якая паспрабавала даваць частку матэрыялаў на беларускай мове, але атрымала ў выніку такое катастрафічнае падзенне тыражу, што, падобна, назаўсёды заракласця прытрымлівацца парад Зянона Пазьняка — лідэра Беларускага народнага фронту.

...Дарэчы, "дыскусіі" — сказана для Беларусі вельмі моцна. Дыскусіі — у Маскве. У Мінску, хутчэй, — размовы. Не "за жыццё", а такія вялыя, пустыя. Здаецца, варта табе замаўчаць — і лопне ўся размова. Ці нацыянальны характар таму прычынай, ці страх сказаць лішняе, але прыказцы "Слова не верабей, выляціць — не зловіш" жыхары Беларусі прытрымліваюцца літаральна.

За тыдзень майго знаходжання ў Мінску на плошчы Незалежнасці (былой Леніна), дзе знаходзяцца галоўныя органы ўлады Беларусі, адбыўся толькі адзін мітынг. Ды і той настолькі непрыкметны, што нават прыхільнікі мітынгаваўшага Пазьняка даведаліся аб ім заднім днём. І не з газет, а ад мяне. Калі парцье ў гасцініцы даведалася аб мэце маёй камандзіроўкі — даследаванне новых палітычных рухаў у Беларусі, — яна доўга смяялася. У нас няма іх наогул, лепш адразу вяртайцеся ў Маскву — так сустрэў мяне Мінск палітычны.

Па вялікаму рахунку, дама, якая засмуціла мяне, не памылялася. Палітычныя партыі і рухі ў Беларусі пачалі з'яўляцца толькі восенню *мінулага года, калі ледзь заціхла пасляпутчавая ліхаманка і яшчэ існаваў СССР. Папярэдні* антыкамуністычны і антыімперскі напал неяк сам сабою ператварыўся ў напал антырасійскі. І тое, у чым абвінавачваўся СССР, зараз адносіцца выключна да Расіі. Для таго, каб зразумець падобны феномен, дастаткова аднаго факта. Адзінай (!) апазіцыйнай арганізацыяй у Беларусі да жніўня 1991 года быў Беларускі народны фронт, уся ідэалогія якога і па сённяшні дзень зводзіцца да лютага антыкамунізму, з аднаго боку, і нацыяналізму, дзяржаўнасці — з другога. У плане практычным БНФ нагадвае нечым нашу "Дэмакратычную Расію". З той толькі розніцай, што "ДэмРасія", якая пры вядомых акалічнасцях страціла свой першы прынцып, у якасці другога выбрала не нацыянальную ідэю і не дзяржаўную, як чакалі многія, а нейкую "дэмакратычную", у сутнасць якой спрабуюць пранікнуць маскоўскія палітолагі.

Лідзіруючае становішча Беларускага народнага фронту можна растлумачыць не толькі сімпатыямі пэўнай часткі карэннага насельніцтва да нацыянальнай ідэі і ідэі адраджэння беларускай дзяржаўнасці, але і прычынамі больш празаічнымі. У многім папулярнасць БНФ звязана з яго апазіцыйнасцю цяперашняму ўраду і Вярхоўнаму Савету рэспублікі. І тут таксама мы бачым забаўную метамарфозу. Адзіны ва ўсёй краіне чалавек, здольны забяспечыць рэальны суверэнітэт Беларусі, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, якога расійскія сродкі масавай інфармацыі называюць чамусьці прэзідэнтам), нямілы БНФ у большай нават ступені, чым Вячаслаў Кебіч — Старшыня Савета Міністраў рэспублікі, які карыстаецца заслужанай рэпутацыяй камуніста і антырыначніка. Часткова гэтая неадпаведнасць выклікана антырасійскай арыентацыяй беларускага прэм'ера.

У цэлым жа ў Беларусі па-ранейшаму захоўваецца небяспека вяртання да "казарменнага" сацыялізму. І небяспека дастаткова бачная, паколькі зыходзіць яна не толькі ад вышэйшай дзяржаўнай наменклатуры, так званага палітычнага "істэблішменту", але і ад самога беларускага народа. Адпаведна даным апытання "Жыццё ў наш час", якое было праведзена адным з навукова-даследчых інстытутаў Мінска, толькі 13 працэнтаў мінчан лічаць магчымым, каб іншаземцы валодалі зямлёй і ўласнасцю ў Беларусі, у той час як 52 працэнты жадалі б, каб зямля знаходзілася ў руках працоўных калектываў. Прыкладна палова (48 працэнтаў) апытаных палічылі за лепшае гарантаваны невысокі заработак, чым вялікія прыбыткі, якія звязаны з рызыкай страціць працу. На пытанне ж "ці належыць аднавіць ролю кампартыі ў нашым грамадстве?" толькі 49 працэнтаў адказалі адмоўна, 14 працэнтаў далі станоўчы адказ і 36 працэнтаў апытаных не далі адказу.

Зайздросную аднадушнасць беларускія партыі праявілі толькі адзін раз. Калі ў невядома чыім запаленчым мазгу ўзнікла ідэя Антыкрызіснага камітэта. Ідэя дзіўная і, як адзначаюць самі беларускія палітыкі, небяспечная. У першую чаргу для Расіі. Камітэт фармальна створаны 14 сакавіка і прызначаны для кіравання краінай на выпадак увядзення надзвычайнага становішча. На справе ж "надзвычайнае становішча" азначае толькі адно — пагрозу з боку Расіі. "З боку камуністычнай Расіі, калі паўторыцца путч", — пераконваў мяне адзін з членаў камітэта. Але і Рух дэмакратычных рэформ, і незалежныя прафсаюзы Беларусі лічаць, што ў камітэта мэта іншая: з цягам часу, знайшоўшы якую-небудзь дыпламатычную зачэпку, уцячы і ад Раіі, і ад СНД.

Як і ўсюды ў былым СССР (акрамя, мабыць, Расіі), пытанне аб дзяржаўнай мове стаіць у Беларусі вельмі востра. З 1990 года справаводства вядзецца толькі на беларускай мове. Руская ў якасці дзяржаўнай не прызнаецца. І гэта пры тым, што толькі трыццаць працэнтаў насельніцтва краіны свабодна валодае беларускай мовай — "Треба тишины, як нема микрофона". Астатнія семдзесят працэнтаў у жаху. У хуткім часе пачнецца пераатэстацыя прафсаюзаў і выкладчыкаў вышэйшых і навучальных устаноў. Чарга дойдзе і да звычайных школ. У некаторых выкладанне ўжо даўно вядзецца толькі на беларускай мове. А нядаўна Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў адобрыў праграму агульнай беларусіфікацыі пачатковай і сярэдняй адукацыі. Адзінай сілай, здольнай спыніць гэты разбуральны працэс, які тоіць у сабе сур'ёзную небяспеку для сваёй краіны і можа пагоршыць адносіны з Расіяй, застаюцца дэмакратычныя партыі, частка якіх да гэтага часу не адважваецца адкрыта выказаць свой пункт погляду па гэтаму пытанню. БНФ валодае незвычайнай сілай і мае сур'ёзны ўплыў ва ўрадавых колах. Сварыцца з ім ні для каго не пажадана.

Праведзенае даследаванне грамадскай думкі, вынікі якога ўжо выкарыстоўваліся вышэй, паказала, што сорак восем працэнтаў з ліку апытаных жыхароў Беларусі жадалі б аднаўлення СССР. Найбольшую ж непрыхільнасць у рэспандэнтаў выклікаюць неафашысты і нацыяналісты... Такім чынам, можна меркаваць, што папулярнасць Беларускага народнага фронту будзе непазбежна падаць, таксама як і папулярнасць іншых нацыяналістычных рухаў (дарэчы, Нацыянал-дэмакратычнай партыі, аб якой тут ужо гаварылася), якія ў пытаннях суверэнітэту і дзяржаўнай цэласнасці Беларусі заходзяць яшчэ далей за фронт. А далей — гэта калі беларускія нацыяналісты як бы між іншым пачынаюць успамінаць, што Віленскі край належаў у свой час незалежнай Польшчы і што Смаленская вобласць не заўсёды была расійскай, асабліва заходняя яе частка. Аднак да таго часу, пакуль уладу мае Станіслаў Шушкевіч, непакоіцца за непарушнасць расійскіх межаў дачасна. Ускосным пацвярджэннем таго можа быць нядаўняя заява Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі, у якой той паведаміў грамадскасці аб сваёй асобай пазіцыі наконт канфлікту ў Прыднястроўі і ледзь не абвінаваціў расійскае кіраўніцтва ў шавінізме і парушэнні хельсінкскіх пагадненняў. Пагадненні гэтыя — перш за ўсё, лічыць старшыня. "Таму мы, паважаючы нормы міжнароднага права, не будзем прэтэндаваць на патэнцыяльныя "спрэчныя" тэрыторыі, — да гэтага зводзіўся сэнс усяго сказанага, — тэрытарыяльная цэласнасць — неад'емная частка суверэнітэту любой цывілізаванай дзяржавы".

Іншага пункту погляду, відаць, прытрымліваюцца беларускія прамыславікі і іх расійскі "куратар" Аркадзь Вольскі. Для іх межаў не існуе наогул. Ім падабаўся СССР, калі можна было поўнасцю спадзявацца на датацыі з дзяржаўнага бюджэту і не вельмі непакоіцца пра пастаўкі металу з чыгуналіцейных заводаў Урала. Пра гэта клапаціўся саюзны ўрад, тым больш, што колькасць абаронных прадпрыемстваў у Беларусі заўсёды была вельмі вялікай. Менавіта перадавікам ваеннай вытворчасці распад СССР прыйшоўся вельмі не па душы. І — адпаведна — узнікла неабходнасць стварэння сваёй "дырэктарскай" партыі, аналага Расійскага навукова-прамысловага саюза, які ператварыўся затым у Саюз расійскіх прамыславікоў і прадпрымальнікаў. Вучыў беларусаў розуму сам Вольскі. Паводле звестак з урадавых колаў, яго прыезд выклікаў небывалы ажыятаж практычна ва ўсіх буйных міністэрствах і ведамствах рэспублікі. Вольскі ішоў, што называецца нарасхват. А ўвянчалася ўсё гэта заснаваннем Беларускага навукова-прамысловага кангрэса, які адразу заявіў аб сабе як аб самастойнай палітычнай сіле, што не збіраецца мірыцца з існуючым становішчам спраў.

Адзін час Міхаіл Гарбачоў — тады яшчэ прэзідэнт СССР — любіў спасылацца на Беларусь як на самую спакойную рэспубліку, што ўстрымліваецца ад любых хваляванняў як дэмакратычнага, так і камуністычнага толку. У адказ па Беларусі пракацілася такая хваля забастовак, што міф аб "бясклапотнай рэспубліцы" быў разбураны назаўсёды. Выступленні рабочых у Мінску і іншых буйных беларускіх гарадах справакавалі самі гаспадары прадпрыемстваў — міністэрства саюзнага і рэспубліканскага падпарадкавання, патрабаванні ж працоўных калектываў насілі галоўным чынам эканамічны, сацыяльны характар.

Хваля забастовак хутка сышла. Часткова — з-за даволі лаяльнай пазіцыі, якую заняў беларускі ўрад на перагаворах з лідэрамі рабочага руху. З таго часу многае змянілася: адбыўся путч у Маскве (у Маскве — падкрэсліваю), паспеў распасціся непарушы СССР, Мінск стаў сталіцай СНД, сам таго не заўважыўшы. А ў Беларусі зноў цішыня ды супакой. Але, магчыма, спакой гэты ўяўны?

**Э.ДАРОЖКІН.**

АД РЭДАКЦЫІ. Калі нашыя суседзі і сапраўды хочуць баяцца Беларусі, дык маюць шанц знайсці памагатых у падобных журналістах-факірах, якія робяць свае высновы на падставе статыстычнага даследавання "аднаго з навукова-даследчых інстытутаў", грунтуюцца на выказваннях "аднаго з кіраўнікоў БНФ", і ўвогуле, свой цэнтральны тэзіс базіруюць на меркаванні парцье з гасцініцы, дзе давялося ўладкавацца... Як кажа наша народная мудрасць, "адна баба казала..."

## Ліставанне

### "ЗАМЕЖНАЯ "ЧЫРВОНКА"

Добры дзень, дарагая "Чырвонка"!

Прывітаньне вам з маскальскай стараны, ад беларусаў Масквы. У вас набірае моц падпісная кампанія, але нам ад гэтага не лягчэй, таму што ня маем магчымасьці чытаць выданьні на роднай мове, у прыватнасьці – "ЧЗ", да якой я пасьпеў ужо ня тое, што прывыкнуць, але і палюбіць. І ня ўяўляю сабе, як у наступным годзе буду абыходзіцца бяз вашае газэты.

Можа будзе якая магчымасьць за дадатковую аплату атрымліваць "Чырвоную змену" тут, у Маскве, бо мы і так адарваныя ад Бацькаўшчыны, а тут утвараюцца і гэтыя нітачкі, якія зьвязваюць нас зь Беларусьсю.

І яшчэ невялічкая прапанова: можа калі-нікалі ёсьць сэнс знаёміць чытачоў зь беларускай лацінкай і хоч невялічкія артыкульчыкі даваць менавіта лацінкай.

Быў бы вельмі рады атрымаць адказ.

З сардэчнасьцю і павагай
БУКА Аляксей, студэнт МДТУ імя Баўмана, г.Масква.

Паважаная рэдакцыя!

Я жыву на Украіне, але з цікавасцю чытаю вашу газету вось ужо чацвёрты год. Але ў гэтым годзе, напэўна, вашым падпісчыкам не стану. Таму што ў расійскіх каталогах, якімі карыстаюцца ў перыяд падпіскі нашы сувязісты, "Чырвонай змены" няма.

У газеце я знаходжу шмат каштоўнага пра гісторыю, культуру, быт і традыцыі вялікага беларускага народа. З цікавасцю чытаюцца палітычныя навіны, эканамічныя праблемныя рубрыкі газеты. Шмат каштоўнага знаходжу пра сучасную літаратуру і наогул пра чалавечае жыццё. Але мала, лічу, у апошні час сувязі з чытачом, магчыма, не па вашай віне, а ў сувязі з пераходам на штотыднёвае выданне з-за інфляцыйных працэсаў у краіне. Трэба ў гэтай справе выпраўляцца.

З павагай
Анатоль ЦІМАШЭНКА, Ровенская вобласць.

*Ад рэдакцыі:*

*Дзякуй за добрыя словы ў наш адрас. Што ж датычыць расійскіх каталогаў, то Бог сведка, не трапілі мы туды не па сваёй волі: за ўключэнне ў іх сувязісты запатрабавалі непамерныя для нас грошы. Адзінае, што мы можам абяцаць усім "замежным" прыхільнікам "Чырвонкі", — самі паспрабуем наладзіць рассылку патрэбнай колькасці экземпляраў па пошце. Сачыце за наступнымі нумарамі!*



*Чым больш займаешся даследаваннем гісторыі, чым больш "закопваешся" ў крыніцы і гістарычную літаратуру, тым больш робіш нечаканыя для сябе адкрыцці. Прычым звязаны яны часцей за ўсё з падзеямі і асобамі, якіх, здаецца, ведаеш выдатна. Узяць хаця б гісторыю пра Рагнеду і яе дзяцей. Колькі ўжо напісана пра Ізяслава, у колькіх даследаваннях прыгадваецца аб тым, што Яраслаў Мудры яе сын? А вось аб тым, што Мсціслаў Храбры таксама яе сын, не прыгадаў ніводнага разу ні адзін з беларускіх даследчыкаў. А гэты ж князь, якога апелі ў сваіх творах і легендарны Баян, і аўтар "Слова пра паход Ігараў", заслугоўвае не меншай, а, магчыма, нават і большай увагі, чым яго браты.*

# КНЯЗЬ-ВОЛАТ

Сведчаннем таго, што гэты славуты князь быў сынам Рагнеды, з'яўляюцца словы Радзівілаўскага летапісу: "Рогнѣд(ь), юже посади на Лыбеди, есть н(ь)нѣ селце Предславино, от неяж(е) роди 4 с(ы)ны: Изяслава, Мстислава, Ярослава, Всеволода и 2 дщери". Ды факт гэты і не з'яўляецца адкрыццём, бо пра яго выдатна ведалі і расійскія гісторыкі мінулых стагоддзяў. Напрыклад, М.Карамзін і А.Нечвалодаў. Ведаюць пра гэта і сучасныя рускія ды ўкраінскія даследчыкі. Мы ж чамусьці забыліся пра аднаго з найбольш цікавых "унукаў Рагваложых".

Мсціслаў быў апошнім дзіцем Рагнеды. Нарадзіўся ён не пазней 987 года. Аб дзяцінстве яго невядома нічога. Але можна смела сцвярджаць, што ён з гэтага часу вызначаўся адвагай і ваяўнічасцю. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што менавіта яго накіраваў Уладзімір на княжанне ў Цьмутаракань. Княства гэта знаходзілася на самым далёкім ускраіку старажытнарускай дзяржавы. Яно размяшчалася на поўдні Крымскага паўвострава і заходняй часткі сучаснага Краснадарскага краю. Стольны горад княства Цьмутаракань стаяў на беразе Таманскага заліва (на яго месцы зараз знаходзіцца станіца Таманская). Горад гэты ў той час з'яўляўся важным стратэгічным пунктам, буйным гандлёвым портам. Насельніцтва княства было вельмі рознаэтнічным — славяне, готы, хазары, булгары, прадстаўнікі горскіх плямёнаў. Жыхары княства вызначаліся сваёю адвагаю, авантурызмам, ваяўнічасцю, маладзецтвам. Ды і няздзіўна, бо толькі такія людзі маглі выжыць у акружэнні варожых народаў. Зразумела, што кіраваць такім княствам мог толькі той князь, які і сам меў такія ж якасці характару. Падыходзіў Мсціслаў і па знешнасці. Летапісец пісаў: "Был же Мстислав дороден, краснолиц, с большими очами, храбр в сражениях, милостив, любил дружину без меры, имени своего для нее не щадил, ни в питье, ни в пище не отказывал им".

Мсціслаў узмацніў свае ўладанні. Ён перамог хазараў, якія жылі пад той час у паўночнакаўказскіх стэпах. А ў 1016 годзе ў саюзе з візантыйцамі ён канчаткова разграміў Хазарскі кагарат (царства) і ўзяў у палон іх кагана. А праз чатыры гады пачаліся канфлікты з касогамі (продкамі сучасных чэркесаў ды адыгейцаў). Цьмутараканцы выступілі ў паход. Князь касогаў Рэдзедзя даведаўся аб гэтым і павёў свае войска насустрач. Спатканне адбылося ў горнай даліне ў заходніх адгор'ях Каўказскіх гор. Восьвось варожыя войскі сыдуцца ў смяротнай бітве. Але тут Рэдзедзя прапанаваў: "Навошта нам губіць у бітве свае дружыны? Лепш сыдземся з табой ды памераемся сіламі самі. Калі адолееш ты, то возьмеш усе мае багацці — і жонку маю, і дзяцей маіх, і маю зямлю. Калі ж адолею я, то вазьму ўсё тваё". "Хай будзе так", — згадзіўся Мсціслаў. Князь касогаў прапанаваў яшчэ адну ўмову: "Але не зброяй будзем змагацца, а барацьбой".



Бітва Яраслава Мудрага з Мсціславам.

Доўга змагаліся волаты. Але ў рэшце рэшт Рэдзедзя (які важыў значна больш), пачаў пераадольваць. І тады Мсціслаў звярнуўся да Багародзіцы. Ён паабяцаў, што, калі адолее ворага, то пабудуе царкву ў яе гонар. І адразу пасля гэтага з апошніх сіл шпурнуў касога на зямлю. Потым выхапіў з-за халявы бота нож і зарэзаў яго.

Мсціслаў, згодна з дамоўленасцю, пайшоў у Касожскую зямлю. Ён прыяднаў яе да свайго княства, забраў усе багацці Рэдзедзі. Касогі былі абкладзены данінай. Дома ж, у Цьмутаракані, ён пабудаваў царкву.

У той час, калі Мсціслаў умацоўваў свае княства, адбіваў напады суседзяў, нападаў на іх, на Русі ішла крывавая міжусобіца. Пасля смерці Уладзіміра яго сыны пачалі барацьбу за велікакняжацкі прастол. Яны забівалі адзін аднаго, захоплівалі чужыя ўдзелы. На дапамогу ў гэтай барацьбе ўладзіміраўцы запрашалі іншаземцаў — хто варагаў, хто палякаў, хто печанегаў. У рэшце рэшт перамог Яраслаў. Ён стаў уладаром амаль усёй Русі. Незалежнасць захавалі толькі Полацкае і Цьмутараканскае княствы.

Мсціслаў патрабаваў ад Яраслава, каб той аддаў яму частку сваіх уладанняў. Ён



лічыў, што мае права на частку зямель загінуўшых братоў. Яраслаў адмовіўся падзяліцца. І тады цьмутараканскі князь вырашыў дзейнічаць сілай. Ён узмацніў свае войска палкамі касогаў і ў 1028 годзе выступіў у паход. Яго войска прайшло прычарнаморскімі стэпамі, а потым уздоўж Дняпра да Кіева. Але кіяўляне не ўпусцілі яго ў горад. Тады Мсціслаў адвёў свае войска ў Чарнігаў і стаў чакаць Яраслава. Яраслаў жа ў гэты час знаходзіўся ў Ноўгарадзе. Ён вымушаны быў сабраць вялікае войска з наўгародцаў. Больш таго, наняў за морам дружыну варагаў. Кіраваў наёмнікамі Якун. Летапісец адзначыў, што гэты сам Якун быў апрануты ў "залаты" (залатаканы) плашч. Заўважу, што менавіта на варагаў больш за ўсё спадзяваўся Яраслаў.

З гэтым войскам Яраслаў выступіў супраць Мсціслава. Той жа, даведаўшыся аб гэтым, вывеў свае войска насустрач. Сышліся ворагі позна вечарам ля мястэчка Ліствін (у некалькіх дзясятках вёрст ад Чарнігава). Яраслаў пастроіў свае войскі так, каб у цэнтры стаяла найбольш баяздольная яго частка — варагі. Мсціслаў жа зрабіў інакш — у цэнтр ён паставіў севяран, якіх набраў у Чарнігаве. А свае войскі размясціў на флангах. Яго разлік быў просты да геніяльнасці — няхай варагі "завязнуць" у барацьбе з чарнігаўцамі. Мая ж дружына разаб'е тым часам наўгародцаў і ўдарыць па іх з бакоў. Але бітве перашкодзіла цемра.

Ноччу ж пайшоў буйны дождж, заблісkалі маланкі, загрымеў гром. Мсціслаў звярнуўся да сваіх ваяроў: "Пойдзем на іх. Яны наша здабыча". Ён разлічваў напасці на спячае войска Яраслава. Але той, пэўна, меў такія ж планы, бо яго войска таксама было пастроена да бою. Цецівы лукаў намоклі, таму раці адразу пачалі рукапашную. У непраглядной цемры пад праліўным дажджом загарэлася крывавая сеча. Звінелі аб варожыя шаломы мячы, трашчалі дрэўкі коп'яў, глуха стукаліся шчыты. З глотак ваяроў вырываліся хаканне ды ўскрыкі. Маланкі не столькі асвятлялі поле бою, колькі слапілі. Увесь гэты шум заглушаў гром.

Рука летапісца вывела на старонках яго твора: "...і схапіліся севяране з варагамі, і працавалі варагі, секучы севяран, а затым пайшоў Мсціслаў з дружынай сваёю і пачаў сячы варагаў". Тыя не



Мсціслаў з Яраславам адваёўваюць у палякаў Галічыну

вытрымалі нечаканага ўдару з флангаў. Варагі былі разбіты і кінуліся ўцякаць. Якун нават кінуў свой "залаты" плашч, які, пэўна, моцна перашкаджаў яму. Бачачы гэтую карціну, кінуўся бегчы і Яраслаў. Прычым накіраваўся ён не ў Кіеў, а разам з ваярамі, што засталіся ў жывых, у Ноўгарад. Наёмнікі-варагі адтуль адразу адплылі на радзіму, а Яраслаў вагаўся — застацца тут ці накіравацца ўслед за варагамі.

Але Мсціслаў не збіраўся "садзіцца" на велікакняжацкі прастол. Ён прызнаваў, што Яраслаў мае больш правоў на яго. Пераможац прыслаў у Ноўгарад прапанову аб міры. У ёй гаварылася: "Садзіся ў сваім Кіеве, ты старэйшы брат, а мне хай будзе гэты бок Дняпра". Яраслаў не вельмі давяраў брату і паслаў у Кіеў сваіх пасаднікаў. Толькі праз год з'ехаліся яны і заключылі мір. На гэтай дамове Яраславу належала заходняя частка дзяржавы з Кіевам, а Мсціславу ўсходняя — са сталіцай у Чарнігаве. У гэтым горадзе ён таксама пабудаваў царкву. Далей браты жылі паміж сабою душа ў душу. Больш таго, у 1031 годзе яны разам выступілі супраць палякаў. Іх мэтай было вярнуць галіцкія землі, якія захапіў у свой час Баляслаў Храбры. Браты ажыццявілі свой намер. Да таго ж яны прывезлі з Польшчы шмат палонных і рассялілі іх у сваіх удзелах.



Пахаванне Мсціслава ў Чарнігаве.

У 1035 годзе Мсціслава напаткала гора — памёр яго адзіны сын. А восенню наступнага года Мсціслаў паехаў на ловы. Там моцна застудзіўся і памёр.

Так закончылася жыццё гэтага героя, якога па заслугах называлі "Князь-волат".

Тым, што ён быў у гісторыі іх народаў, ганарацца і рускія, і ўкраінцы. І тыя і другія лічаць яго сваім. Толькі мы, беларусы, чамусьці забыліся пра тое, што малодшым сынам Рагнеды быў менавіта ён, князь цьмутараканскі Мсціслаў Храбры.

Мікола БАГАДЗЯЖ.

Падпіска — 93. Наш індэкс 63129




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№16 (206)



*Фестывалі*

# ПАД ЗОРКАМІ І СЯРОД ІХ





Ці адзін раз нам даводзілася шкадаваць, што беларускія папулярныя выканаўцы могуць спадзявацца толькі на пракокаў "у чужой айчыне"? Найбольш прадстаўнічы беларускі фестываль ("Басовішча") праходзіць у Польшчы, найбольш папулярныя дыскі беларускай поп- і рок-музыкі прадаюцца ў ЗША і Нямеччыне (Данчык, Барткевіч, "Уліс")... Але вось сабралася ў Оршы група энтузіястаў (не чакаць жа міласціны ад Мінкульта) і правяла (у гэтым годзе другі раз) сваё маленькае "Басовішча" – бардаўскі фестываль "Аршанская бітва".

Чытачы "Чырвонай змены", бадай, аказаліся найбольш інфармаванымі наконт гэтай падзеі. Год таму рэпартаж з фэсту нам даслаў адзін з ягоных арганізатараў – журналіст "Аршанскай газеты" Юрась Копцік. Сёлета наша рэдакцыя была ў курсе падрыхтоўкі чарговага фэсту, мы паспелі ўжо даць некалькі кароткіх паведамленняў пра яго і, атрымаўшы афіцыйнае запрашэнне, 5 верасня самі выехалі на месца.

Раней у "Чырвонкі" не было канкурэнта ў асвятленні падзей з жыцця беларускай маладзёжнай музыкі. Сёння ён з'явіўся ў асобе "ЛіМа", які зрабіў відавочную пераарыентацыю ў гэтым напрамку і літаральна з гэтага лета пусціў на свае старонкі рокераў ды бардаў.

Зрэшты, прыемна было сустрэць у Оршы прадстаўніка канкуруючай фірмы Уладзю Панаду, які дапамог ілюстраваць і наш рэпартаж. Так што болей бы такіх канкурэнтаў.

На вакзале нам у вочы кінуліся акуратна расклееныя на відных месцах бел-чырвона-белыя афішы "Фестываль беларускай аўтарскай песні "Аршанская бітва-92". Ужо гэта сведчыла аб сур'ёзнасці задумы. А яшчэ тое, што выканаўцаў і гасцей фэсту аргкамітэт выправіў сустракаць адпаведна аздоблены шэдэўрык Паўлаўскага аўтобуснага завода імя Жданава. Зразумела, усіх адразу ён бы не ўзяў, але і барды, і журналісты паступова падцягваліся сюды з Менску, Гомеля, Полацку, Гародні... і "ПАЗ-672" рэгулярна дастаўляў іх на славутае Крапівенскае поле, дзе ў 1514 годзе нашым продкам удалося пабіць ненажэрнага ўсходняга захопніка.

Пад'язджаючы, мы азіралі наваколле, прыгадваючы па ім словы папулярнай песні Андруся Мельнікава: "Па беразе рэчкі – дачы мясцовых зямлян...". Далей, аднак, цытаваць не буду. І не толькі таму, што поўны тэкст песні "Нотны аркуш" змясціў на постары з мінулага фэсту, але і таму, што "аб бойні тае з іх..." многія ўжо чулі. Чулі менавіта дзякуючы фестывалю. Да намётавага гарадка, які часткова загадзя быў разбіты на свежай траўцы, а часткова ўсталёўваўся непасрэдна перад адкрыццём фэсту, ішлі ад дачнага пасёлка людзі. Зухавата была абсталявана імправізаваная сцэна, аснашчаная неблагім камплектам гукаўзмацняльнай апаратуры. Перад ёй – лаўкі для гледачоў, а няўдалеч – усё для вогнішча.

Сам фэст – гэта не толькі бардаўскі канцэрт і скокі ўначы пад беларускую музыку, што разлівалася з рэпрадуктараў. Распачаўся ён прыняццем прысягі беларускімі афіцэрамі на вернасць Беларусі. Акцыя гэтая адбывалася ўпершыню, толькі праз два дні яе падхапілі ў Менску і іншых гарадах рэспублікі, і сімвалічна, што пачатак быў пакладзены менавіта тут, на Крапівенскім полі, – полі вайсковага гонару Беларусі.

Як працяг свята – адкрыццё памятнага знака, які сімвалізуе, што мы яшчэ вернемся да старонак тваёй славы, Беларусь.

Канцэрт распачынаўся ўжо ў прыцемках. Прырода злітасцівілася над беларусамі і прыпыніла, здавалася, бясконцыя дажджы, а цеплыню яны знайшлі самі вакол песень і вогнішча.

Дый невыпадкова мы назвалі фестываль маленькім "Басовішчам", бо дзякуючы прадпрымальным кааператарам было тут і чым душу сагрэць, акрамя кавы, піва і бутэрбродаў.

Але вернемся на сцэну. Канцэрт вялі Юрась Копцік і Андрусь Мельнікаў. Адзін з іх неяк паскардзіўся, што "гранды да іх не ездзяць, што яны ўсё па Беластоках бадзяюцца, дзе можна і грашовы прыз выйграць". Ды дзякуй Богу выйшаў за ім гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч і спыніў гэтую самапрыніжальнасць:

– Я стаў адным з лаўрэатаў "Басовішча-92", а сёння мне прыемна быць сярод вас. Бо і там, і тут знаходзіш аднадумцаў.

Ледзь не напрасткі з Беластока ў Оршу трапіла і палачанка Лера Сом.

Дый што прыбядняцца: многія песні аршанскага барда Зміцера Дзядзенкі, які ўзяў у рукі гітару, ведае ўся Беларусь у выкананні таго ж Андруся Мельнікава. Неаднойчы выступаў па тэлебачанні і чыста публіцыстычны бард з Менску Кастусь Герашчанка. Пісалі мы і пра першыя крокі Ланы Медзіч.

Зрэшты, хіба толькі зоркамі адзінымі жывая бардаўская песня? Асабіста я ехаў у Оршу, каб пачуць новыя імёны. І дзе б я яшчэ пачуў магілёўчаніна Ігара Мухіна, аршанку Наташу Казлову... І менавіта тут, на "Аршанскай бітве-92", я адкрыў новую зорку – гомельскага барда Зміцера Бартосіка.

Выступ гамяльчаніна стаўся проста незабыўным. Перад тым я прыкмеціў між намётамі нейкага юнака, які хвалююча перабіраў пальцамі струны і засяроджана патанаў у нейкіх вобразах. Потым яго і аб'явілі як Зміцера Бартосіка. Ён хваляваўся, прызнаўся, што першы раз выступае перад такой публікай. Першыя акорды ўзяў не ў той танальнасці і... збіўся. Аднак, хваляваўся, ды не губляўся. Ужо ў другой песні ўсе мы адчулі ўпэўненасць ягонага прыгожага голасу. І яшчэ адчулі, што ён нікога не капіруе: у яго свая манера, свой музычны арэол, свая вобразная палітра. Нечакана для пачаткоўца. Хацелася б не страціць ягоны творчы лёс на беларускіх бардаўскіх далягладах, якія ўсё пашыраюцца не толькі колькасна, але і якасна.

Ужо *толькі дзеля такіх адкрыццяў* "Аршанская бітва" была вартая, каб яе праводзіць. Але ж былі і проста гутаркі з сябрамі, і добры пачастунак на прыродзе. А ў душах засталася памяць. Ды яшчэ на месцы Аршанскае бітвы застаўся памятны знак, што мы яшчэ прыйдзем сюды.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

**НА ЗДЫМКАХ:**
- **Афіцэры прысягаюць Беларусі.**
- **Тут будзе фэст.**
- **Памятны знак у гонар Аршанскай бітвы.**
- **Барды-гранды Віктар Шалкевіч і Андрусь Мельнікаў.**
- **Ля мікрафона — Лера Сом.**
- **Ля вогнішча — Лана Медзіч.**
- **Тут быў фэст.**

Фота Уладзіміра ПАНАДЫ.









# Ліцвіны

Фальклорны гурт "Ліцвіны" ўтварыўся ў 1991 годзе. У 1990-м да дуэта Наталя Матыліцкая (сядзіць у цэнтры) — Уладзімір Бярбераў (стаіць у цэнтры) далучыліся Ксенія Дзягілева (сядзіць злева) і Мікола Трус (стаіць справа), у 91-м — Алена Шэўчык (сядзіць справа), Марына Грыбок, Наталля Захаранка (злева) і Людміла Ануковіч (другая справа). А яшчэ праз год — удзел у двух міжнародных фестывалях: "Scamba, scamba, Kankles" у Вільні і "Балтымір" у Калінінградзе.

Мэта "Ліцвіноў" — працяг традыцый народнага выканання ў сцэнічных умовах, вяртанне ў наш побыт гучання забытых ужо інструментаў. Магчыма, таму большасць удзельнікаў — выхадцы з вёскі, а ў рэпертуары гурта ёсць песні іхніх бабуль.

*МЕНЕДЖМЕНТ: 220088, Менск, вул. Захарава, д.54, кв.58. Тэл. 36-52-78. Уладзімір Бярбераў.*

Фота У.ПАНАДЫ.



Фотапла

…таплакат № 53




## ВОСЕНЬ МАЯ ДОЎГАЯ

*Песня з Гомельшчыны*

Восень мая доўгая,
Доля мая горкая.
З кім я буду жыта жаць,
З кім вячэру вячэраць?
А я сяду край стала,
Павячэраю адна.
Павячэраю адна,
Майго мілага няма.
А мой мілы на Дану,
Я да яго паляту.
Украй Дона абышла,
Нідзе яго не знайшла,
Толькі знайшла каліну,
Да й у даліне магілу.
Ручачкамі абняла,
Слёзанькамі абліла.
—Устань, мілы, не ляжы,
Мне дарожку падкажы.
—З кім ты, міла, сюды йшла,
Што мяне ты тут знайшла?
Ці ты з бурай, ці з гразой,
Ці з гарачаю слязой?
— Я не з бурай, не з гразой,
Я з гарачаю слязой.

Уладзімір МІХНО

# ЛЁНЬКА БРЭЖНЕЎ

Немцы ў Курмялёўцы! Вось дык навіна! Увішныя языкі па ўсёй вёсцы платы гародзяць. Баюць людзі, прыехалі немцы надвячоркам, як панічы, на чатырох "мерседэсах" ды на мікрааўтобусе. Машыны — супер: маленькія ды спрытныя, нашым Саветам такія і не сніліся. Клункі, казалі, выгружалі да поўначы — панавезлі і фотаапаратаў, і магнітафонаў...

Спыніліся немцы ў школе. Там жа, на двары, неўзабаве павырасталі іх палаткі, як грыбы. Мабыць, сабраліся тут да самае восені атабарыцца. Няго ж, бясплатны курорт: возера тут, лес побач і радыяцыі, кажуць, не надта.

Надоечы адзін малады фрыц гуляў па вёсцы з фотаапаратам, здымаў, мусіць, для гісторыі курмялёўскія "дастапрымячацельнасці". Ведама, дзівосаў тут хапае розных. Адную вунь Сцёпішыну хату "заўпічатлі", то ў іхняй нямчурні ўвесь бундэстаг разам з бундэсратам галовы паламаюць на здагадках, што за такі стратэгічны аб'ект. Падумаюць, пэўна ж, у Саюзе зноў бліндажы капаюць, акурат як у сорак першым. Во і дачакаліся-дасакаліся: зноўку немцаў сустракаем.

Гэты, значыцца, экзотыкай любуецца, нібыта ў гістарычны музей трапіў, а Сцёпіха з хаты на вуліцу вывалілася і давай яму ў аб'ектыў свой тлусты зад выстаўляць. І так, і гэдак павернецца — пазіруе. Цьфу-ты, калода старая. Табе даўно пара ўжо ў сасонніку раскладвацца на атамы, а не з фрыцамі кумавацца. Сама як ёсць сорам пагубляла, дык суседзяў вунь паважай. Яшчэ ж старыя не ўсе павыміралі. Лічы паў-Курмялёўкі помняць і тую вайну, і тога германца. Далі б хоць ім спакойна звекаваць веку.

Немцы прыехалі не так сабе, а па лініі нейкага фонду. Фондаў па цяперашняй часіне развялося, як сабак у добрага паляўнічага. Паспявай толькі рот раскрываць, глядзіш — які кавалак гуманітарнай дапамогі сам туды і ўваліцца.

Будзе германец на выгане, за вёскаю, будаваць жыллё для чарнобыльцаў. Ды не такое, якое вунь Лёнька Брэжнеў, найперцы калгасны будаўнік, ладзіць другое ўжо лета — не цаглянае, каб растаяла ды рассыпалася, а мудронае нейкае, нянаскае, з аднае гліны ды саломы. Што значыць Захад! Цывілізацыя!

Лёнька Брэжнеў — наш курмялёўскі пацан і блытаць яго з колішнім геніяльным крамлёўскім літаратарам, прама вам скажу, не рэкамендую. Бо няма ў іх нічагуткі агульнага, апрача хіба чорных ды густых броваў, з-за якіх, відаць, і напароўся хлапец, яшчэ калі падшыванцам бегаў, на калючую мянушку, як карась на кручок. Праўда, калі "паддасць", тады Лёнька — палітык першай велічыні на ўсю Курмялёўку. Заблудзіўшыся ў зубах, неслухмяны, цяжкі на пад'ём язык можа гадзінамі балбатаць, вырашаючы праблемы глабальнага маштабу. Хлопцы смяюцца: табе, Брэжнеў, трыбуну добрую, высокую — любога дзермакрата заткнеш за пояс. На мянушку Лёнька не крыўдзіцца, прывык, але, як будзеце шмат распытваць, запраста можаце зарабіць па "ўмывальніку". Лёньку палец у рот не кладзі. Бывала, яшчэ да арміі, калі заявіцца ў клуб "пад градусам" — разбягайся, народ. А цяпер, як вярнуўся з Афгана, зусім нейкі звераваты стаў, злы на ўвесь свет, ходзіць, плюецца праз зубы ды лье тую гаручку, быццам не ў сваё горла. Не жэніцца во, а няхай бы ўжо лепей ажаніўся, мо паспакайнеў бы. Колішняе яго каханне Волька Шургалёва гуляла тут ледзьве не з кожным другім, покуль у войску быў. Мабыць, даказалі людзі, во і злуе. Не ўкрыўдзіў бог дзяўчыну розумам ды станам, пакараў характарам. Намалюецца, як карціначка. Хлапцы па ёй сохнуць, а яна іх вакол пальца водзіць ды пасміхаецца. Свае, ведаючы такі нораў, плюнулі даўно і забыліся. Толькі вось Лёнька ніяк не можа астыць.

— Брэжнеў! Ходзь сюд!

Клічуць дзеўкі. Ды якія там дзеўкі — дзеці горкія, павырасталі во, як на дражджах, пакуль хлопец быў у арміі. Напаскудзяцца тэю парфумаю, што і пацалаваць гідка. Дзеўкі абступілі фатографа цэлым калгасам і не пускаюць.

— Каго, зайца злавілі?

— Жаніха... Свае не па кайфу, то мы імпартнага.

Худы, як прышчэпка, "жаніх", адразу відаць, закардоннай, бутэрброднаімпартовай вытворчасці, нічога не цяміць, але абыякава і нават, здалося Лёньку, здзекліва пасміхаецца.

— Фрыц?— здагадваецца ён.

— Oh nein, nein, Markus.[1]

— Маркус? Адзін чорт, Фрыц.

— А гэта — Брэжнеў!— устаўляюць дзеўкі свае тры грашы, хоць іх ніхто не просіць, яшчэ й іржуць, як кабыліцы стаенныя.

— Was?[2] Брэ-шнэф?!— у тога вочы па яблыку.— Брэшнэф іст Москаф... Умірайт...

— Глядзі ты, шурупіць, фашыст,— дзівуецца Лёнька і зараз жа атрымоўвае па пятае чысло.

— Du bist dummkopf![3]

— Чаво?! Ты вось што, чайлда сапліван, зара мне яшчэ паспікай — як ёсць, шпрэхальніцу натаўку. I shall beat your fase[4]. Ferschein?[5] — успамінае Лёнька, што і ён у свой час прыносіў "двойкі" па замежнай.

— Oh, Do you speak english very well?[6]— радуецца кляйнэ. Відаць, і яму здакучыла тут дырыжыраваць рукамі.

— Дую, дую... Пасядзеў бы пад Пешаварам, мо і ты надуў бы.. . у штаны,— Брэжнеў нечакана хмурнее, пачынае злаваць. Так, дарэчы, бывае заўсёды, калі нехта яму напомніць пра Афган.— How old are you?[7] Шчаўлік!

— I am eighteen.[8]

— Яно і відаць.

— Was?

— Where have you got leazning to speak english?[9]

— In school...And you?[10]

— Ну вось, хто пра што, а Брэжнеў пра Леніна...— не вытрымліваюць дзеўкі. Яны даўно ўжо раты параскрывалі ды зіраюць на Лёньку, як на марсіяніна.— Запытай лепей, ці любіць ён нашых дзевак?

— Do you like these girls?[11]

— Oh, yes, of couzse![12]

— Сказаў, такіх коз у іх і ў саміх да фіга,— смяецца Лёнька ды ляпае немца па плячы.— Слухай, а шнапсу маеш? Schnaps. Водка...

— Oh, nein.

— Чорт з табою. А ты, відаць, нічога пацан. Недзе ў мяне паўпляшкі засталося — на чорны дзень. Пойдзем, вып'ем ці што — за сустрэчу на Эльбе?

— Elba? Was?

— Кажу, we must go to the lake. Understand? I want to ask...[13]

Брэжневу хоць са слупом — абы дзябнуць. Ні на кога не зважаючы, яны бяруцца за рукі і ідуць. Прастуюць паўз вечаровую вуліцу, агародамі спускаюцца да возера.

— I want to ask you... I am sorry, — няўмела сачыняе Лёнька.— Where was your grandfather during the great Patriotic War?[14]

— I do not understand...[15]

— Што ж тут незразумелага?— закіпае Лёнька.— Was your grandfather a soldier[16]

— А, піф-паф?— здагадваецца Маркус.— Yes...in Russia... but where?..[17]— ён паціскае плячыма.

Яны то спікаюць, то шпрэхаюць, дапамагаюць жэстамі ды мімікай, а зрэшты, разумеюць адзін аднаго, бадай, без слоў. Ля возера да паўночы гарыць вогнішча, стаіць некранутаю, лічы, гарэлка ды засыхаюць парэзаныя вялікімі скрылямі пара свежых, проста з ляхі, агуркоў — за Брэжневым такога дзівацтва раней не заўважалася. І яны, абсалютна цвярозыя, вырашаюць ледзьве не дзяржаўныя праблемы...

Назаўтра ж і назаўсёды — яны дружбакі. Ды якія? Колькі разам гарэлкі выпілі! Колькі дзеўкам вушэй заканіфолілі! Ці ж бы немец гэдак смела ўлягаў за нашымі дзеўкамі, а ці запраста бегаў бы на танцулькі кожную суботу, каб не стаяў за яго спінаю Лёнька Брэжнеў. Скажу вам, народ у нас люты і ў сваёй хцівай лютасці не вельмі каб разумны. Любога чужога пад гарачую руку могуць і затаўчы. Аднак Маркуса не толькі не чапалі — лічылі сваім. Мо таму прычынаю быў Лёнька, а мо і не. Маркус Паўл — чалавек патрэбны. Працаваў ён на машыне, ну, і часам падвозіў нашых да клуба, кіламетраў за пяць. Наладуе свой лімузінчык, народу, як селядцоў, — і пагналі. Людзі цяпер панамі парабіліся, пехатою хадзіць лянуюцца.

Трэба сказаць, кампанейскі дый зусім не брыдкі немец паступова пачаў апярэджваць тутэйшых алкаголікаў на амурным фронце. А дзеўка ласая да свежага кавалера, як той памаўзлівы кот да смятанкі: пакуль не лізне — не супакоіцца. І ўсё ішло б, як па масле, каб не звалілася бядою тая праклятая субота...

Каб ведаць, дзе паваліцца, кажуць, падушачку падаслаў бы. Маркус не ведаў. Ён быў шчаслівы з новаю сяброўкаю, з...Волькаю Шургалёвай. І, хаця не было паблізу Лёнькі, адчуваў сябе, як дома: весела скакаў, жартаваў і смяяўся. І ад Волькі не адыходзіў ні на крок. Хлопцы хітравата пасміхаліся, але маўчалі — каго скубе чужое гора.

Танцы заканчваліся, спакваля разыходзіўся народ і змарнаваная бяссонніцай заўклубша ўсур'ёз мецілася перакрыць музыцы кісларод, калі заявіўся, як бы зваліўся з неба, Брэжнеў. Хітаючыся, бы тая чараціна пад ветрам, хвіліну стаяў, няўцямна пазіраў на вясёлую парачку, нарэшце, павалюхаў на сярэдзіну залы, проста да Волькі. На немца нават і не зірнуў:

— Што, с-сука цягашчая, свае кабялі не задавальняюць? Імпартнога захацелася?

— У цябе, алкаш, не запыталася,— агрызнулася Волька.— Ведаеш, Брэжнеў, схадзі ты лепей... паліжы, ды мне раскажы.

Лёнька размахнуўся ўдарыць яе, але перадумаў:

— Ну, глядзі, шэльма... Толькі ведай, я цябе яшчэ дастану.

— Ой, напужалася, ратуйце!

І — тут як тут быў Маркус, збянтэжаны, а ці сапраўды спалоханы — твар яго спалатнеў:

— Was ist das, Lonja? Nicht ferschtein... I do not understand...[18]

— А ты яшчэ тут, мой фюрэр? Хэндэ хох!

Брэжнеў не стаў размінаць на ім свае пудовыя кулакі, хоць не было сумневу, што выйшаў бы пераможцам. Ён акуратна, можна сказаць, беражліва схапіў Маркуса за каўнер, як кошка малое каця, і з'едліва ўхмыльнуўся:

— Што, дапамагаць прыехалі, хлысты? За сваё ўз'яднанне зараз пяты нам гатовы лізаць? Скажы, о мой фюрэр, а ці не твой дзед майго ў магілу загнаў? Мо дапамог бы лепей вярнуць яго адтуль? А з дзеўкамі, брат, я і без цябе спраўлюся. Альбо думаеш, мне ў Афгане жанілку адарвала? Не спадзявайся. Мы яшчэ магём. Нах хаўз, фашыст, нах хаўз!

Ён яўна іграў на публіку, бо наўрад ці мог дайсці да немца сэнс яго п'янае балбатні. А публіка прыціхла. Калі хто і спачуваў Маркусу — усёдна маўчалі. У нас заўсёды так...

Немец паспрабаваў вырвацца, але сілы былі надта няроўнымі. Нарэшце Брэжнеў злёгку, нібы малому, паддаў яму каршнёю пад зад і адпусціў:

— Музыку! Музыку, я сказаў ... За перамогу над Германіяй.

— Gott bestraft dich![19]

— Што?!

— God will punish you![20] — Маркус закрычаў, колькі было сілы і знік за дзвярыма, растварыўся ў цемры, каб не бачыла публіка здрадлівых слёз, якія неспадзявана падступілі да горла, душылі пякучай нянавісцю.

Бог не стаў марудзіць. Недзе праз тыдзень на будоўлі здарылася няшчасце. Лёнька, абсалютна цвярозы, аступіўся, зваліўся з бэлькі і, хоць не так было высока, моцна пакалечыўся. Як на бяду, у той дзень па ўсёй АТС не працаваў ніводзін тэлефон — не было як выклікаць "хуткую дапамогу". Хлопцы сунуліся туд-сюд і, не напаткаўшы транспарту, кінуліся да немцаў.

Маркус, распавядалі, даведаўшыся, нервова перасмыкнуўся, але бегма пабег да машыны. Сам дапамагаў пакласці, сам і павёз у раённую хірургію. Лёнька так яму нічога і не сказаў, тады ляжаў непрытомны. А болей яны і не сустракаліся.

Напрыканцы лета немцы з'ехалі, так і не паспеўшы дабудаваць свае катэджы. І ці будзе іх цяпер хто дабудоўваць? Восень. На выгане дажджы абмываюць новабудоўлі. А працаваць няма каму: хлопцы курмялёўскія хто паехаў вучыцца, а хто залез у бутэльку капітальна. Хіба во Лёнька Брэжнеў дабудуе — як ачуняе...

---

1. О не, не, Маркус. (Ням.)
2. Што? (Ням.)
3. Ты дурань! (Ням.)
4. Я буду біць тваю морду. (Англ.)
5. Разумееш? (Ням.)
6. Ты вельмі добра размаўляеш па-англійску? (Англ.)
7. Колькі табе гадоў? (Англ.)
8. Мне васемнаццаць. (Англ.)
9. Дзе ты навучыўся размаўляць па-англійску? (Англ.)
10. У школе... І ты?.. (Англ.)
11. Ты любіш гэтых дзяўчат? (Англ.)
12. Так, вядома! (Англ.)
13. Мы павінны пайсці да возера. Разумееш? Я хачу запытацца... (Англ.)
14. Я хачу запытацца ў цябе... прабач, дзе быў твой дзед у час Вялікай Айчыннай вайны? (Англ.)
15. Не разумею...(Англ.)
16. Быў твой дзед салдатам? (Англ.)
17. Так... у Расіі... але дзе? (Англ.)
18. Што такое, Лёня? Не разумею... Не разумею... (Ням., англ.)
19. Бог цябе пакарае! (Ням.)
20. Бог цябе пакарае! (Англ.)

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## УСЕ ВЯЛІКІЯ ПАЧЫНАЛІ З МАЛОГА

**Асоба і бізнес — паняцці несумяшчальныя. А бізнес і дзеці сумяшчаюцца нядрэнна.**

Сагнуўшыся ад сцюдзёнага ветру, я хуценька шыбавала да будынка сталічнага аўтавакзала "Усходні". Хлопцы зноў на тым жа месцы, зноў з тымі ж самымі газетамі. Прадаюць так званую "жоўтую" прэсу. Паназіраўшы колькі часу, адзначаю, што гандаль ідзе не вельмі бойка.

"Алесь і Віталь, дзесяцікласнікі адной з мінскіх школ", — называюць яны сябе.

Спачатку яны мне падаліся не вельмі разгаворлівымі.

– Хлопцы, што вас прымусіла зарабляць грошы? – пытаюся.

— Іх адсутнасць, — адказваюць, а на тварах напісана: "Во дзівачка, аб чым пытаецца".

– А чаму менавіта такім чынам?

— "Пахаць" не хочацца, а тут не вельмі стомішся.

– У вас ёсць "бос"?

— Ёсць.

– Утаргаваныя грошы з ім дзеліце?

— Ну, а як жа.

– А колькі штодзённа маеце, калі не сакрэт? – працягваю прыставаць я.

Хлопцы пачынаюць ухіляцца ад прамога адказу. Але я не адступаю.

— Калі як. Можаш трыццаць рублёў зарабіць, а можаш і трыста.

– Ад чаго гэта залежыць?

— Ад уласных намаганняў. Калі не будзеш шкадаваць голасу, дык ад'язджаючыя хутчэй звернуць увагу. А будзеш чакаць, пакуль хто скіруе, так і праседзіш цэлы дзень без грошай.

– Колькі часу вы ўжо працуеце?

— Паўгода.

– Мо, скалацілі сабе "капіталец"?



У вачах хлопцаў чытаю: "Во, наіўная".

– А на што хапае?

— На кіно, марожанае і цыгарэты.

– Вы самі чытаеце тое, што прадаеце?

— Зрэдку.

– Чытаеце штосьці іншае?

Алесь і Віталь смяюцца:

— Што ў школе задаюць.

– Настаўнікі ведаюць, што вы тут?

— Нас гэта не цікавіць.

– А бацькі як ставяцца да вашага выбару?

— Безумоўна, станоўча. На булачкі мы ж у іх не бяром.

– Часта сюды прыходзіце?

— Калі ёсць час і жаданне.

– А вучобе вашы заняткі не перашкаджаюць? – цікаўлюся.

— Адно аднаму не замінае. З урокамі мы змагаемся паспяхова, — хлопцы смяюцца.

– Людзей штодзень праходзіць шмат. Нікому не коле вока ваша прысутнасць?

— Здараецца, што які-небудзь старэнькі дзядок, патрасаючы палкай, крычыць, што нам на завод трэба, да станкоў, а не паперкамі гандляваць. Стараемся адмоўчвацца, бо з такім звяжыся — крыку будзе на ўвесь аўтавакзал.

Дыктар аб'явіла чарговы рэйс. Алесь узяў стос газет з дэтэктывамі і анекдотамі і пайшоў да платформы.

Звяртаюся тым часам да другога школьніка:

– Віталь, з якім пачуццём ты ўваходзіш у салон аўтобуса? Ты адчуваеш які-небудзь комплекс, ці гэта звычайная справа?

— А што мне камплексаваць? Ад мяне ж не адваліцца, калі я скажу тры сказы.

– Ну, а калі сорак пар вачэй глядзяць не вельмі прыязна?

— Хай глядзяць, са мной нічога не зробіцца.

– А многа купляюць?

— Мала, бывае, што і зусім не бяруць. "Яшчэ на паперу грошы пераводзіць", — Віталь кагосьці перадражніў.

– А ты б хацеў у будучым мець якую-небудзь сваю справу?

— Я абавязкова стану бізнесменам.

Калі, седзячы ў салоне аўтобуса, вы пачуеце: "Паважаныя пасажыры! Вам прапануецца зборнік анекдотаў. Сто смешных гісторый пра няверных мужоў і жонак, пра Рабіновіча, Брэжнева і Шчірліца. Кошт зборніка — дзесяць рублёў", ведайце, перад вамі — будучыя бізнесмены.

Фота В. БАРЗДЫКА.

Старонку падрыхтавала
Жанна ПАЦЕЕНАК,
тэл. 32-50-01

*Правінцыяльная школа*

# ГОРКАЕ «ШЧАСЦЕ» НЯШЧАСНЫХ ДЗЯЦЕЙ

Ёсць людзі, якія, прыехаўшы на пастаяннае месца жыхарства з вёскі ў горад, так і застаюцца правінцыяламі. Абразлівае "крэст", "калгаснік" могуць кінуць і навучэнцу ПТВ, і студэнту ВНУ, і чалавеку сталаму. Але ж усіх гэтых "калгаснікаў" выхоўвае школа. У правінцыяльнай школе вучаць не так і не таму?

"Таму", — адказвае дырэктар Начынскай няпоўнай СШ Полацкага раёна Віцебскай вобласці Краўчанка В.І.— Безумоўна, праграма ж усюды адзіная. Але ў вясковай навучальнай установы ёсць "свае праблемы", — адзначае Васіль Іванавіч.

Калі будынак школы не тыпавы, то яго прыстасоўваюць. У Начынскай школе актавая зала знаходзіцца ў пераходзе з аднаго крыла ў другое, а вучні пачатковых класаў у час урокаў чуюць з-за дзвярэй грукат мячоў, тупат ног і каманды выкладчыка фізкультуры, бо калідор адначасова з'яўляецца і спартыўнай залай. Хаця па такой бядзе жыць можна, усё — справа прывычкі.

Адсутнасць грошай не дае магчымасці набыць неабходную колькасць наглядных дапаможнікаў. Сёння дырэктары сельскіх школ павінны валодаць якасцямі даставалы-выбівалы, бо ні абсталяванне, ні дапаможнікі, ні тым больш будаўнічыя матэрыялы сёння ніадкуль не зваляцца. Разлічваць застаецца толькі на свае сілы. Вось і даецца настаўнікам "ЦУ" — шукайце фарбу для падлогі.

Дарэчы, сёлета падлогу пафарбавалі. Сцены таксама. У светлы колер, што цудоўна, бо глянеш на будынак школы звонку — не харомы, а ўвойдзеш — класы ўтульныя, чыстыя. Утульнасць ствараюць тыя ж настаўнікі, не ўсё ж ім будматэрыялы шукаць. Безумоўна, і вучні свае ўменне ў рамонтных работах праяўляюць.

У полі таксама. Хочаце не хочаце — ідзіце школьнікі на калгасныя палеткі, там вас бульбачка ды бурачкі чакаюць. Няма жадання? А на экскурсію ехаць? Напэўна ж, у калгасным аўтобусе?

Ля школы восемдзесят шэсць сотак зямлі, апрацоўваюцца якія тымі ж сіламі — трыццаццю сямю вучнямі з пятага па дзевяты клас. Затое зямліца "корміць" выхаванцаў танна — за капусту, бульбу не трэба плаціць, кошт школьных абедаў складае галоўным чынам кошт мяса, якое купляецца.

Сховішча з вялізнай бочкі не спрабавалі зрабіць? Дырэктар Начынскай школы раіць. Танна і выгадна. Агародніна захоўваецца на ўсе сто.

Што яшчэ добрага ёсць? Тэрыторыя школы дагледжаная, заасфальтаваная. Спартыўная пляцоўка на перапынках дзіцячымі галасамі поўніцца, а выкладчыкі ў настаўніцкай збіраюцца, некалькі хвілін пагрэцца ў халодныя дні. Хаця на ацяпленне нараканняў няма, да школы цэнтральнае падведзена.

А праблемы... Іх шмат, пазбавіцца, напэўна, ад іх немагчыма. Як не вылезці яшчэ доўгі час нам з беднасці, з залежнасці.

А залежыць вясковая школа ў значнай ступені ад калгаса, ад волі яго старшыні. Калі вучні буракі летам праполюць ды восенню іх павыцягваюць, глядзіш, і перападзе тое-сёе школе. Хаця на вясковых дзяцей усю работу не зваліш, яны амаль увесь год занятыя ў сялянскай гаспадарцы, рукам адпачынак хіба што зімой даецца.

Ва ўсе часы школа ў "глыбінцы" была "падчаркай" у раённага аддзела адукацыі. Усё лепшае заўсёды размяркоўвалася навучальным установам райцэнтра. Мо, так і трэба, каб дзве-тры "дачушкі" былі паказальнымі, а астатнім — што перападзе, бо ў любым выпадку на ўсіх маленькі кавалак пірага не падзеліш. Сёння наогул пра якую-небудзь дапамогу зверху трэба забыцца.

Але ж на дзяцей махнуць рукой нельга. А яны сёння нейкія закамплексаваныя, абмежаваныя. Пытанняў не задаюць, нічым не цікавяцца, а на матэматычную формулу, якую ўчора настаўнік, б'ючыся, нібы аб сцяну, уклаў у галовы, назаўтра глядзяць, як бараны на новыя брамы. Ці то вынікі Чарнобыля, які выбухнуў па генетычнаму коду новага пакалення? Ці то вынікі застольна-алкагольных "пасядзэнняў" бацькоў, якія часта завяршаюцца сумна? Толькі многія настаўнікі правінцыяльных школ сцвярджаюць, што папярэднія дзеці былі разумнейшыя.

Ці ж гэта не трывожыць? Будучыня — час адсталых людзей? Час дзяцей алкаголікаў, якія і самі робяцца алкаголікамі? Сумна.

Вучыць такіх дзяцей нялёгка. Ды і працуюць на вёсцы не заўсёды лепшыя настаўніцкія кадры. Не едуць у глухмень выкладчыкі, тут жа камфорту няшмат. Хаця і мае права сельскі настаўнік на бясплатную кватэру, але гэта толькі тэорыяй і застаецца. Хто яе цяпер дасць? Наогул, адкуль сёння кватэра возьмецца? Гаспадарка не будуе, школа — тым больш. У паветраных жа замках абяцанняў у чаканні матэрыялізацыі апошніх сёння жыць ніхто не будзе.

Зарплатай кадры таксама не прывабіш, бо не залатая жыла, а нагрузка немалая.

Вось і едзе дырэктар школы з вёскі ў райцэнтр па дапамогу да калег. Часцей адклікаюцца настаўнікі-пенсіянеры.

Адно суцяшае, што якім бы ні быў рэжым, якая б партыя ні кіравала, ва ўсе часы адукацыя патрэбна, і настаўнік без работы не застанецца.

"Мір — планеце! Шчасце — дзецям!" — напісана над уваходам у Начынскую СШ чырвоным па белым. Справядліва, прычапіцца няма да чаго. Мы ж заўсёды хацелі жыць у міры і жадалі шчаслівага дзяцінства. Толькі ж нейкае горкае шчасце ў большасці нашых дзяцей, якія, дарэчы, кветкі жыцця. І журасна робіцца ад думкі, што кветкі гэтыя непаўнацэнныя.

Пасля заканчэння школы большасць выхаванцаў ідзе ў прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, дзе многія паглыбляюць сваю абмежаванасць. Аб якім адраджэнні наогул можна казаць, калі новыя сілы ўжо ў самым пачатку свайго ўзнікнення гніюць з кораня?

Ці ж гэта не заняпад? І дзе з яго выйсце?

Фота Сяргея БРУШКО.

Насуперак фразе, якая дзякуючы славутаму тэлемосту стала ледзь ці не крылатай, кіраўнік гарадскога сексалагічнага цэнтра Дзмітрый Зіноўевіч КАПУСЦІН лічыць, што

# СЕКС У НАС ЁСЦЬ!



**– Памятаеце, як у М.Жванецкага? "Што такое секс? Гэта калі голыя, голыя і яшчэ больш голыя?" Як вам падабаецца такое азначэнне?**

— Вы хочаце нейкага пэўнага азначэння? Так адразу цяжкавата адказаць. Секс — гэта ўсё, што звязана з уласнымі інтымнымі перажываннямі, з блізкімі адносінамі паміж мужчынам і жанчынай, а калі браць шырэй, то і ўвогуле паміж жывымі істотамі... Можна пайсці далей — некаторыя зведваюць аргазм, нават гледзячы на неадушаўлёныя прадметы. І гэта таксама "секс". Нават у дзіцяці могуцьназірацца сексуальныя схільнасці яшчэ да таго, як яно навучылася хадзіць...

У пачатку размовы вы нагадалі мне "гістарычную" фразу — "сексу ў нас няма". Верыце, у нейкім сэнсе тая дзяўчына мела рацыю. Яго няма, таму што "пра гэта" не думалі і не думаюць на сур'ёзным узроўні і нават на самым звычайным узроўні — дома, у сям'і, сярод сяброў — саромеюцца гаварыць. Вы заўважылі, напрыклад, як у аптэках людзі купляюць інтымныя рэчы? Паўшэптам, чырванеючы, заікаючыся, просяць "тое", сарамліва тыцкаюць пальцам у шкло вітрыны... І сёння многія лічаць, што інтымныя праблемы — справа толькі дваіх, і няма чаго іх вывучаць.

**– Секс і шлюб... Як суадносяцца гэтыя паняцці? Наколькі яны сумяшчальныя, калі мець на ўвазе не надакучлівыя прыёмы, а цікавую, разнастайную "праграму"? На жаль, самыя распаўсюджаныя эпітэты да злучэння "секс у шлюбе" – сумны, аднастайны і да т.п.**

— Вы замужам? Так. Значыць, разумееце адну з заканамернасцяў развіцця інтымных адносін у сям'і. Як гэта ні сумна, у шлюбе секс паступова затухае. А на першае месца выходзіць быт з усімі штодзённымі праблемамі. Толькі не пытайцеся ў мяне, як з гэтым абстаяць справы на Захадзе. Не ведаю, не пасылалі мяне туды, таму што "сексу ў нас няма". Сексу няма — і праблем няма. А іх на самай справе безліч. Думаю, што з-за нейкіх аб'ектыўных (характэрных для Захаду) прычын і ў іх сямейных парах не ўсё адбываецца гладка. Над гэтымі праблемамі працуюць цэлыя інстытуты... А ў нас — быт, быт, быт. Быт настолькі захліснуў жанчыну, што праблемы сексу яе не хвалююць. Я нават не здзіўляюся, што на 10—11 мужчын, што звяртаюцца па дапамогу ў гарадскі сексалагічны цэнтр, прыпадае толькі адна жанчына. Што ім тут рабіць? Яны, прабачце за праўду, зведваюць аргазм толькі раз ці два ў месяц — калі муж прыносіць дадому зарплату. Праблема асабістага шчасця матэрыялізавалася, прыняла форму самых празаічных рэчаў... "Мілая, можа пойдзем у ложак?" — "А ты мне купіш заўтра новыя калготкі?"

**– Гэта, мне здаецца, ад уласнай лянoты, ад недахопу фантазіі... Пры жаданні можна ўдала абысці "падводныя рыфы..."**

— З той умовай, што жаданне будзе ўзаемным і дастаткова моцным. Вельмі мала сакрэтаў у інтымным плане застаецца прыкладна праз 5—7 год сямейнага жыцця, калі выпрацоўваецца сексуальны стэрэатып (ласкі, позы, формы "разрадкі"). З аднаго боку гэта добра — эканомяцца сілы, энергія, з другога — ператвараецца ў руціну найвышэйшая чалавечая радасць. Нехта з партнёраў, ён ці яна, абавязкова зразумее гэта першым. І пачне фантазіраваць, шукаць, выпрабоўваць. І тут вельмі важна, як павядзе сябе другі партнёр. Зразумее, адгукнецца, падтрымае — адносіны пяройдуць на новую стадыю, замацуюцца. Не — магчыма здрада з больш згаворлівым і эмацыянальна развітым партнёрам. Ёсць такое паняцце "сексуальны сцэнарый" — набор правіл, норм паводзін, жаданняў, якія фарміруюцца ў залежнасці ад выхавання, ведаў, асяроддзя і г.д. Усё, чаго хочацца аднаму з партнёраў у адпаведнасці з яго "сцэнарыем", павінна задавальняцца ў сям'і. Але, калі на сваю прапанову ён пачуе катэгарычную адмову, не спадзявайцеся, што на гэтым справа скончылася. Хто шукае, той заўсёды знойдзе. І знойдзе якраз там, дзе вам менш за ўсё хацелася б. Выпадковыя палавыя сувязі — гэта якраз адна са спроб увасобіць свае мары ў жыццё.

Жанчына і мужчына — істоты абсалютна розныя. Большасць жанчын не надае сексу вялікага значэння, узводзіць на п'едэстал іншыя жыццёвыя каштоўнасці — дзяцей, быт, атмасферу ў сям'і. А ў мужчыны якраз усё наадварот. Убачыўшы прыгожыя ногі, ён ужо гатовы на ўсё. Але мужчына, разыграўшы свой "сексуальны сцэнарый" да канца, пачынае крыху сумаваць. Вось тут і з'яўляецца ў жанчыны магчымасць сябе "праявіць". З'яўляецца, але даволі рэдка рэалізуецца. Жанчына растрачвае сябе на чэргі, а пасля іх яна ў стане "фантазіраваць" толькі на "каўбасныя" тэмы. У гэтым сэнсе палюбоўніца заўсёды ў выйгрышы. У ідэале кожная жонка павінна адчуваць сябе ў адносінах да мужа палюбоўніцай і сваімі паводзінамі стымуляваць яго цікавасць да сябе.

**– А можам мы гаварыць пра секс як пра аснову, фундамент сям'і? Ці галоўнае ўсё ж – духоўныя адносіны?**

— Скажыце, а вам дастаткова было б толькі "духоўнага пажытку" з каханым? Шлюбаў без сексу не бывае, а вось без узаемаразумення, без павагі адзін да аднаго — колькі хочаш. І часта менавіта з-за непрывабнага сексуальнага боку жыцця. Але ніякая, нават самая адточаная "тэхніка" не заменіць духоўнай блізкасці. Лічыцца, што ідэальны адрэзак часу ад знаёмства да першага палавога акта — 6—18 месяцаў. Безумоўна, гэтая тэорыя вельмі далёкая ад практыкі. І ўсё ж патэнцыяльныя партнёры павінны спачатку "настроіць" сябе адзін на аднаго. Калі ж жаданне мужчыны адразу рэалізуецца, то каханне ў яго можа не ўзнікнуць ніколі.

**– Скажыце, Дзмітрый Зіноўевіч, а як вы ставіцеся да выказвання "ўсё, што адбываецца ў ложку, – правільна"?**

— А вы?

– Цудоўна.

— І я таксама.

**– Тады наступнае пытанне. Ці "здольны" секс замацаваць сям'ю ў нейкі крытычны перыяд?**

— Гледзячы хто на што "ставіць" у гэтай сям'і. Прасцей кажучы, у залежнасці ад таго, што чалавека тут трымала. Шырокія магчымасці яго жонкі ў інтымных справах? А можа яму на гэта, прабачце, начхаць? Можа, яго трымала тое, што ў каштоўнай "палові" тата — міністр і ўсе службовыя і бытавыя праблемы вырашаліся імгненна? А потым раз — тату знялі. Пры чым тут нейкі секс? Ён з самага пачатку не меў ніякага значэння... Такім парам мы не ў стане дапамагчы, таму што ў якасці сям'і яны з самага пачатку існавалі фармальна.

Ёсць людзі, для якіх увогуле секс — не галоўнае, я ўжо казаў. Галоўнае для іх — дача, гараж, работа. І тут нічога дрэннага няма, калі для іх абаіх галоўнае — своечасова пасадзіць памідоры ці ўзвесці да пачатку халадоў парнік. Бяда, калі адзін з радасцю корпаецца на градах, а другі ў гэты час млее ад жадання... Мэта нашага цэнтра — захаваць сям'ю, добрыя адносіны, прывесці мужа і жонку да кансенсуса. Але не любымі сродкамі, а толькі калі ў іх ёсць жаданне. Сапраўднае жаданне, а не паказное.

**– У апошні час з усіх бакоў толькі і чуеш, што пра палавую разбэшчанасць...**

— Нядзіўна. Рэзка павялічыўся паток сексуальнай інфармацыі з экранаў тэлевізараў, старонак газет... І гэта зусім нядрэнна. Дрэнна, што нават гэту прымітыўную інфармацыю зноў спрабуюць забараніць, схаваць у "непразрыстую ўпакоўку". Зноў забарона і кантроль пры адсутнасці стваральнай працы па вырашэнню праблемы... А попыт застаецца. І яшчэ павялічыцца... Нармальная, натуральная цікавасць да таго, чаго ў нас так доўга не было. І — на здароўе, і — дзякуй Богу. Галоўнае, каб "тэхнічныя" веды былі скіраваны на любімага чалавека, а не на таго, хто проста з цікаўнасці згадзіўся на "апрабацыю" новых поз.

**– Што трэба для таго, каб навучыцца "добраму" сексу?**

— Трэба ўмець любіць. І не дрэнна было б, каб паралельна з натуральным працэсам развівалася навука сексалогія (не блытайце з сексапаталогіяй). Прычым, па ўсіх аспектах — сацыялагічнаму, этнаграфічнаму, філасофскаму.

**– На гэтай аптымістычнай ноце і скончым нашу размову. Вялікі Вам дзякуй.**

Гутарку вяла
Наталля СТРАЛКОВА.

***Нагадваем усім жадаючым адрас Мінскага гарадскога сексалагічнага цэнтра: г.Мінск, вул. Чырвоная, 2.***

Фота Аляксея МАЦЮША.

## Экспрэс-інтэрв'ю

### СНІД наступае. Ужо ёсць ахвяры.

Усе ведаюць, што такое СНІД. Але не ўсім вядома пра Цэнтр па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам, які працуе ў Мінску з лютага 1990 г. Наш карэспандэнт пабывала там і ўзяла інтэрв'ю ў загадчыцы кабінета ананімнага абследавання на СНІД Рэгіны Генрыхаўны ДУК.

**– Скажыце, калі ласка, колькі ў ваш Цэнтр звяртаецца людзей з просьбай абследавацца на СНІД?**

— За 9 месяцаў 1992 г. да нас прыйшло 1009 чалавек, выяўлены адзін інфіцыраваны.

**– А як наогул сітуацыя са СНІДам у рэспубліцы?**

— У Беларусі зараз 85 інфіцыраваных СНІДам, з іх 13 — хворыя. А памерла ад СНІДу ўжо 2 чалавекі.

**– Сярод іх ёсць дзеці?**

— Так. З 85 чалавек — 6 дзяцей. Чацвёра заразіліся ў чэраве маці, а двое — з-за халатнасці медперсаналу (але апошнія не ў нашай рэспубліцы). У Беларусі няма ніводнага выпадку заражэння СНІДам па віне медыцынскіх работнікаў.

**– А самі людзі змяніліся? Ці з'явілася адрозненне паміж тымі, хто прыходзіў год назад і тымі, хто прыходзіць цяпер?**

— Вядома. Калі раней прыходзілі людзі, якія наогул баяліся СНІДу (гадоў пад 40 і больш), то зараз кліенты "памаладзелі". Звяртаюцца часцей за ўсё тыя, у каго былі сумніцельныя сувязі. Сярэдні ўзрост гэтых людзей — 18—35 гадоў.

**– А колькі патрэбна разоў здаваць аналіз для выяўлення СНІДу?**

— Афіцыяльна — 2 разы, але можа быць 3—5 — колькі спатрэбіцца. Наогул, першая станоўчая спроба яшчэ нічога не значыць, прычынай яе можа быць цяжарнасць альбо розныя анкалагічныя захворванні.

**– А потым, калі ўсе аналізы далі станоўчы вынік?**

— Потым збіраюць кансіліум урачоў, яны ўстанаўліваюць дыягназ. Іншаземцаў пасля гэтага адразу ж адпраўляюць дадому. А нашых суайчыннікаў кладуць дзён на 10 — на абследаванне ў стацыянар. Потым яны працягваюць жыць, як і ўсе нармальныя людзі. Ім толькі забаронены некаторыя рэчы.

**– Якія, напрыклад?**

— Напрыклад, ім нельга займацца сексам без папярэджвання свайго партнёра і без прэзерватыва.

Лідзія РЫЖАНКОВА,
нештатны кар. "ЧЗ".



*Пра "гэта"*

## ПРЭЗЕРВАТЫЎ СА СМАКАМ ШАКАЛАДУ – ГЭТА ЎЖО НЕ МАРА, А АМАЛЬ РЭАЛЬНАСЦЬ

У прынцыпе кожны нармальны чалавек павінен хоць раз у жыцці паглядзець парнаграфічны фільм і наведаць секс-шоп (магазін, дзе гандлююць інтымнымі рэчамі). З першым справы абстаяць значна прасцей – пры жаданні не складае вялікай цяжкасці знайсці "відзік" і неабходную касету. З другім... Дарэчы, не так даўно на адрас рэдакцыі прыйшла паштоўка з запрашэннем наведаць вытворча-камерцыйнае прадпрыемства "Сан", якое збіраецца адкрыць першы (калі не памыляюся) у гісторыі рэспубліканскага гандлю магазін з "цікавым" таварам. Мы завіталі ў вышэйпамянёнае прадпрыемства і атрымалі наступную інфармацыю. Па-першае, гэта не жарт. Па-другое, набыць розныя інтымныя рэчы можна будзе шляхам непасрэднага наведвання ўстановы або пры дапамозе секс-каталога, на які, дарэчы, ужо аб'яўлена падпіска. Мне пашэнціла трымаць у руках і нават гартаць яго чарнавы варыянт. Відовішча, што і казаць, захапляльнае. Пераважную большасць тавару складаюць штучныя мужчынскія геніталіі разнастайных памераў, колераў і канфігурацый з вельмі сур'ёзнай назвай "вібратар эл/механічны". Кошт самага празаічнага "вібратара" звычайных памераў і колеру без усялякіх там мудрагелістых штучак складае крыху больш за дзве тысячы рублёў. (Кошт



вызначаецца ў залежнасці ад курсу валюты, за якую набываецца тавар). Дарагавата? А вас ніхто і не прымушае рабіць пакупкі. Магазін будзе разлічаны на даволі вузкае кола людзей (пакуль што заяўкі на каталог даслалі каля ста пяцідзесяці чалавек). Хто яны? Не ведаю, паколькі фірма забяспечвае не толькі наяўнасць тавару, а і ананімнасць пакупніка. Магу здагадвацца, што ў сексуальным плане гэта хутчэй за ўсё не вельмі шчаслівыя людзі. Прычыны – самыя розныя: імпатэнцыя, закамплексаванасць, адзінота, паталагічная боязь СНІДу... Не думаю, што некаму ад добрага жыцця захочацца прыдбаць сабе гумавую "жанчыну". З жывой, згадзіцеся, неяк цікавей, цяплей, ці што... Таму не спяшайцеся асуджаць. "Секс-шоп" – гэта не проста бізнес, гэта яшчэ і спроба дапамагчы людзям са шматлікімі сексуальнымі расстройствамі хаця б такім сурагатным спосабам. Гэта магчымасць даць ім зведаць найвялікшую зямную радасць.

Усё астатняе будзе залежаць ад прыстойнасці і сумленнасці арганізатараў справы. "Мы хочам, каб наш магазін стаў своеасаблівым цэнтрам сексуальнай культуры",– паведаміў камерцыйны дырэктар ВКП "Сан" Аляксандр Зайчык.

Што ж, пажывём – пабачым...

Н.КАРПЕНКА.

## Лік на табло

Сумная навіна: другі ўжо раз у гэтым нацыянальным футбольным чэмпіянаце каманды першай лігі вырашаюць вынікі матчаў паміж сабой не на полі, а на... паперы. На гэты раз ануляваны вынік матча чатырнаццатага тура "Тарпеда" (Магілёў)–"Будаўнік" (Старыя Дарогі), які закончыўся 10 кастрычніка з лікам 0:0. Ужо ў наступны чацвер Дысцыплінарна-тэхнічны камітэт нашай федэрацыі пазбавіў тарпедаўцаў ачка і аддаў перамогу (+:-) "Будаўніку". Прычына – удзел у гульні капітана магілёўскай каманды Мікалая Насташэўскага, які, згодна з рэгламентам, пасля трэцяга папярэджання павінен быў яе прапускаць. Пратэст старадарожцаў задаволены. Але ўзнікае зразумелае пытанне: ці ніхто з афіцыйных асоб, што прысутнічалі на матчы (маю на ўвазе суддзяў, інспектара), не можа падказаць трэнеру, які памыліўся, радкі з футбольных законаў? Ці самі не ведаюць?

На тым жа пасяджэнні ДТК адмяніў... сваё ж рашэнне, прынятае менш за месяц таму. Справа ў тым, што ўмоўная дыскваліфікацыя ігрока рэчыцкага "Ведрыча" Генадзя Шынкарова павінна была стаць наяўнай пасля другой чырвонай карткі ў сезоне. Але і гэты праступак караючы орган федэрацыі вырашыў Генадзю дараваць і пазбавіў яго права гуляць у трох чарговых сустрэчах сваёй каманды.

Ужо ў матчы пятнаццатага тура супраць мінскага "Тарпеда" Шынкароў зноў выйшаў на поле. Матч гэты прайшоў у Мінску і закончыўся з лікам 1:1. З такім жа лікам завяршыліся сустрэчы каманд з верхняй паловы турнірнай табліцы "Днепр"–"Тарпеда" (Магілёў) і "Дынама" (Брэст)– "КІМ". Таксама ўнічыю згулялі ў Бабруйску "Трактар" і "Хімік", але ў матчы гэтых сапернікаў забітых мячоў не было.

Мінскае "Дынама" з пераканаўчым лікам 3:0 перамагло "Гомсельмаш" у гасцях. "Беларусь" дома пераіграла "Металургу" 2:1. Пераможцы гэтых сустрэч яшчэ больш замацаваліся на першых радках табліцы. Імкнецца наверх "Шахцёр", які адолеў 1:0 на выездзе "Лакаматыў". Яўна не задавальняе рэпутацыя аўтсайдэраў старадарожцаў: на сваім полі яны забілі два безадказныя мячы "Абутніку" і ўзняліся аж на дванаццаты радок.

### ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама Мн. | 14 | 12 | 2 | 0 | 38-7 | 26 |
| Беларусь | 14 | 9 | 2 | 3 | 23-10 | 20 |
| Дынама Бр. | 14 | 7 | 4 | 3 | 18-9 | 18 |
| Днепр | 14 | 7 | 4 | 3 | 20-13 | 18 |
| КІМ | 13 | 6 | 5 | 2 | 15-7 | 17 |
| Хімік | 14 | 6 | 5 | 3 | 13-15 | 17 |
| Тарпеда Мг | 14 | 5 | 7 | 2 | 18-9 | 17 |
| Трактар | 15 | 5 | 6 | 4 | 12-6 | 16 |
| Шахцёр | 14 | 6 | 3 | 5 | 12-15 | 15 |
| Тарпеда Мн. | 14 | 3 | 7 | 4 | 14-15 | 13 |
| Металург | 15 | 4 | 3 | 8 | 17-24 | 11 |
| Будаўнік | 13 | 4 | 2 | 7 | 8-13 | 10 |
| Ведрыч | 13 | 3 | 4 | 6 | 11-18 | 10 |
| Гомсельмаш | 13 | 3 | 4 | 6 | 8-15 | 10 |
| Лакаматыў | 14 | 2 | 5 | 7 | 15-22 | 9 |
| Абутнік | 14 | 1 | 3 | 10 | 7-24 | 5 |
| БелАЗ | 14 | 1 | 2 | 11 | 8-35 | 4 |

Бамбардзіры: У.Каваленя ("Шахцёр") – 8, С.Бараноўскі ("Дынама" Мн), Ю.Мазурчык ("Хімік") – па 7, С.Гоцманаў ("Дынама" Мн), С.Куланін ("КІМ"), А.Пуціла ("Беларусь"), А.Радушка, А.Скарабагацька (абодва – "Днепр") – па 6 мячоў.

# НАМ ТРЭБА ВУЧЫЦЦА

Сёння мы працягваем размову пра сучаснае становішча беларускага футбола. Сваімі думкамі дзеліцца галоўны трэнер каманды "Тарпеда" (Мінск) Уладзімір Касакоўскі:

— Каманды падышлі да нацыянальных футбольных чэмпіянатаў першапачаткова ў няроўных умовах. У каманд майстроў, якія гулялі ў былым чэмпіянаце СССР, былі лепшыя базы і ўмовы, падбор ігракоў больш высокага класа, як вынік — псіхалагічная перавага над сапернікамі і статус фаварытаў.

Прайшоў першы чэмпіянат і амаль палова другога, усе беларускія каманды правялі некалькі гульняў з мінскім "Дынама" і іншымі фаварытамі. Многія каманды паказалі ў гэтых сустрэчах даволі высокі узровень, нават супраць сталічных дынамаўцаў. Псіхалагічная мяжа сціраецца, каманды ўзнімаюцца тэхнічна. Выраўноўваюцца ўмовы — выраўноўваецца клас. Думаю, наступны чэмпіянат стане яшчэ больш цікавым, барацьба набудзе вастрыню і бескампраміснасць. Толькі лідэр бясспрэчны, на астатнія камплекты ўзнагарод прэтэндуе вялікая колькасць каманд.

Трэнеры каманд былога чэмпіянату рэспублікі раней не мелі вопыту гульняў такога ўзроўню, на якім даводзіцца гуляць цяпер. Раней ім выпадала сумяшчаць працу адміністратара і начальніка каманды, зараз жа, нарэшце, можна займацца сваёй асноўнай работай. Кантакты з больш вопытнымі трэнерамі, гульні з прафесійнымі клубамі ўзбагачаюць незаменным вопытам. Але, на жаль, не праводзіцца аніякай работы з трэнерамі, аніякага абмену вопытам накшталт семінараў, сустрэч.

А ўзровень нашых суддзяў наогул пакуль адстае ад узроўню чэмпіянату. Ёсць гульні, у якіх памылкі арбітраў штучна змяняюць вынік ці іншым чынам уплываюць на яго. Калі нашы суддзі будуць удзельнічаць у міжнародных сустрэчах, іх майстэрства, безумоўна, палепшыцца.

Не толькі зборныя, але і клубы павінны прымаць удзел у міжнародных сустрэчах. Гэта трэба рабіць не толькі для паляпшэння гульні, але і для вучобы, і ўзбагачэння вопытам. Раней мы шукалі кантактаў з менш славутымі клубамі за мяжой, цяпер, пасля нашага міжнароднага прызнання, можна выклікаць на спаборніцтвы каманды сусветнага ўзроўню. У слабейшых праціўнікаў шмат чаму не навучышся.

Шэрагу каманд (асабліва ўсё тым жа ўдзельнікам былога чэмпіянату рэспублікі) для гульні на больш высокім узроўні, які мае, безумоўна, наш нацыянальны чэмпіянат, трэба абнаўляць састаў. У гэтым плане вельмі шмат залежыць ад фінансавага становішча клуба. Суперклубы тут маюць значную перавагу, з імі цяжка спрачацца пры набыцці маладых таленавітых ігракоў. Яны самі ўзмацняюцца, каманды менш багатыя яшчэ больш аслабляюцца. Але, на мой погляд, трэба, каб абавязкова было некалькі (хаця б 5-6) каманд высокага ўзроўню, тады і пачне паступова ўзнімацца ўзровень усяго беларускага футбола.



*Хакей*

# НАБЫЛІ ЦІ СТРАЦІЛІ?

**"Дынама" (Мінск)–"Крышталь" (Саратаў) – 2:2, 4:0.**

Праз два тыдні зноў у родным Палацы спорту гулялі мінскія хакеісты. Засмучаўшых па хакеі выявілася значна больш, чым гэтага можна было чакаць па выніках папярэдніх гульняў "Дынама". Ці то гледачоў так уразіла назва "Міжнацыянальная хакейная ліга" (амаль што заакіянская), ці то хацелі свежымі вачыма ўбачыць каманду, якая здолела ТАК згуляць у Аўстрыі, ці то дачакаліся, нарэшце, саперніка па зубах — саратаўскі "Крышталь", які трапіў у МХЛ не па спартыўных, а па так званых матэрыяльных паказчыках. Так ці не, але калі без жартаў, мінская публіка па-ранейшаму і па-сапраўднаму "хварэе" і перажывае за родную каманду. І, пэўна, чакае ад яе любві ў адказ.

І вы ведаеце, нельга сказаць, каб нашы хакеісты гулялі без жадання. Адна к увасобіць сваю перавагу над зусім не моцным "Крышталём" у галы мінчане не "не хацелі", а "НЕ МАГЛІ"! Характэрны эпізод з другога перыяду другога матча, у якім, дарэчы, закінутых шайб не было. Шэсць хвілін запар, маючы колькасную перавагу, мінчане не здолелі трапіць у вароты сапернікаў. Нават былі такія двуххвілінныя адрэзкі, калі нашы гулялі ў большасці і наогул не зрабілі ніводнага кідка. Рэалізаваць колькасную перавагу ў другім матчы дынамаўцы здолелі толькі раз — у трэцім перыядзе.

У першым матчы ўсе выніковыя падзеі адбыліся ў другім перыядзе, у другім матчы амаль усе — у першай трэці гульні.

Героем першай сустрэчы ў складзе "Дынама" стаў Васіль Панкоў. На яго рахунку абедзве закінутыя нашай камандай шайбы. Але на кожную з іх даволі хутка "Крышталь" рабіў выніковы адказ. Трэнеры выпускалі Васіля ў складзе розных пяцёрак, але больш забіць гол ужо не ўдалося ні яму, ні камандзе. Лік застаўся нічыйным.

Лёс другога матча, як ужо зазначыў, вырашыўся ў першым перыядзе. Праз лічаныя секунды пасля пачатку гульні Занкавец адкрыў лік, потым Бекбулатаў і Файкоў забілі яго больш пераканаўчым — 3:0. Другі перыяд, як вы ўжо ведаеце, быў "сухім" для абодвух бакоў. Такім жа мог быць і апошні адрэзак гульні, каб на зыходзе двухмінутнага знаходжання аднаго з саратаўцаў на лаўцы штрафнікоў Антоненка не закінуў чацвёртую шайбу. Лік для нашай каманды прыемны і незвычайны.




Наогул, гэтыя дзве гульні выклікалі ўспаміны пра турнір першай лігі былога чэмпіянату СССР. Лепшы ігрок і капітан "Крышталя" Жаброўскі гуляе ў камандзе ўжо вельмі доўга. Як успомніў былы мінскі хакеіст, а цяпер адзін з кіраўнікоў дынамаўскага клуба Анатоль Бяляеў: "Нават яшчэ ў той час мы з ім сустракаліся на лёдзе!" Ёсць у Саратаве яшчэ некалькі вопытных хакеістаў, але моцнай каманды няма. А мы з ёй на роўных...

І ўсё ж тры ачкі для мінскага "Дынама" — прыемны здабытак.

А на заканчэнне прыемная навіна для аматараў хакея. Былы абаронца мінскага "Дынама" і зборнай Саюза Юрый Крывахіжа пачаў выступаць за клуб НХЛ "Нью-Джэрсі Дэвілс".

Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік "ЧЗ" Яўген ПУЧКОЎ.

Фота Сяргея БРУШКО.

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

(Пачатак у №№34 – 42).

Задума Гайды была сапраўды добрай: біскуп Токарчук атрымае ліст з Ватыкана, зразумела, па-італьянску, з паведамленнем, што там атрымана інфармацыя аб ягоным ганебным мінулым і ў сувязі з тым Кангрэгацыя па справах біскупаў чакае ад яго высвятлення ягонай пазіцыі ў гэтай справе, пасля ўзгаднення адказу з прымасам. Ліст будзе дастаўлены "непасрэдна з Рыму" падстаўной асобай, нібыта з Інстытута Прымасаў.

— Хто падпіша ліст?— спытаў Гураль.

— Кардынал Себасцьяно Багіо,— хутка адказаў Гайда.— Ужо шукаюць у архіве ягоны подпіс і ўзор пячаткі. Людзі з аддзела тэхнікі кажуць, што гэта проста, трэба толькі мець узор. Паперу адправім з Італіі.

Дырэктар прыняў план адказу. Выглядаў задаволеным. Параіў толькі падрыхтаваць дадатковыя матэрыялы для выхаду, каб маглі надаць за мяжой розгалас гэтай справе праз свае каналы.

Затое рашэнне аб рыхтаванай самім Гуралем кракаўскай аперацыі яшчэ не было прынятае. Дырэктар мусіў пракансультавацца аб гэтым з вышэйшым кіраўніцтвам, бо справа датычыла блізкіх да Папы асобаў і патрабавала асаблівай увагі. Мелася на ўвазе рыхтаваная Дэпартаментам вялікая аперацыя з мэтай кампраметацыі самога Папы. Першым этапам ейнага выканання было падрабленне стужкі хатняга подслуху і напісанне "дзённіка" рукой якога-небудзь кракаўскага знаёмага Папы. Задачай Гураля было атрыманне дакументаў, хаваных, паводле інфармацыі Службы Бяспекі, у кватэры аднаго ксяндза ў Кракаве. Справа была тым цяжэйшая, што першая спроба пранікнення не ўдалася і агенты мусілі быць вельмі асцярожнымі.

Падпалкоўнік Гураль, які яшчэ тыдзень таму з энтузіязмам рыхтаваў дэталёвы план аперацыі і штодзённа чакаў сігналу на пачатак назірання і выкарыстання тэхнікі, раптам перастаў спяшацца. Задума дырэктара аб "атрыманні падзякі" Папы за перадачу яму таго падрыхтаванага імі глупства падавалася яму цяпер амаль смешнай. Хто зловіцца на гэта? Папа?

Канешне, Гураль будзе згаджацца, складаць новыя планы ці ўдасканальваць старыя і рабіць выгляд захопленага справай. Але хутка яна стане непатрэбнай. Сапраўдны план сапраўдных дзеянняў ніколі не будзе напісаным і перададзеным на ўзгадненне нікому з гэтых людзей, якія ўважаюць сябе ягонымі кіраўнікамі. Ён мусіць стварыць дасканалы план. Гэта будзе дасканалы план — у гэтым Гураль не меў сумнення. І паспяховы. Раптам пачуў сябе бязмежна самотным перад гэтай страшнай асабістай адказнасцю за лёс краіны, партыі і сацыялізму, які прысягаў бараніць.

## РАЗДЗЕЛ 4

*Серада, 19 студзеня 1983 г.*
*Масква,*
*кабінет Юрыя Андропава.*

— Значыць, ён ужо дзейнічае... Узяўся. Няблага, нават знайшоў сабе чалавека, — вуркнуў сам сабе Юрый Андропаў, чытаючы кароткія нататкі, прысланыя на ягоную просьбу ("Ва ўласныя рукі тав. Генеральнага сакратара. Сакрэтна. Асобага прызначэння") з Асобага ўпраўлення — найбольш таямнічай структуры КДБ. Нават на Лубянцы няшмат асобаў — за выключэннем тых, з трэцяга паверха, ведала пра ягонае існаванне. 16 упраўленне адказвае за аперацыі, якія маглі б скампраметаваць СССР у выпадку, калі б іхняе аўтарства было ўсталяванае. Дарэчы, апошнім часам галоўным накірункам адной з такіх аперацыяў быў збор звестак аб кожным кроку аднаго з сяброў Палітычнага бюро і сакратара партыі ў Польшчы.

*Варшава,*
*Бюро Епіскапата Польшчы.*
*Фрагмент пастырскага ліста:*

*З вялікай радасцю мы пачынаем перыяд падрыхтоўкі да другой пілігрымкі Святога Айца, які прыбудзе на Бацькаўшчыну ў дзень 18 чэрвеня г.г. Цешыць нас тое, што споўніцца мара Святога Айца, які лічыць сваім правам і абавязкам адданне шацунку Маці Божай, ужо шэсцьсот гадоў апякуючай наш народ на Яснагурскім абразе.*

*Варшава,*
*будынак Цэнтральнага Камітэта.*
*Нататка са стала*
*кіраўніка Аддзела друку ЦК:*

*У сувязі з планавым візітам Папы Яна Паўла II у Польшчу належыць скарыстаць гэты факт дзеля паказу грамадству выбраных сюжэтаў дзейнасці Касцёла, якія засведчылі б двудушнасць ягоных учынкаў і прынцыпаў, асабліва ў часы, цяжкія для дзяржавы і народа.*

*Прапанаваныя акцыі павінны несці знакі аб'ектывізму, які будзе фарміраваць рэакцыю грамадскасці ў пажыданым намі накірунку. З улікам згаданага прапануецца:*

*1. Паказ палітычнай пераменлівасці Касцёла з выкарыстаннем гістарычных і сучасных прыкладаў праз:*

*а) паказ па тэлевізіі:*

*— "Авадзень", "Чырвонае і чорнае", "Драўляны ружанец", "Немаральныя апавяданні" (аўтар — Бароўчык), роўна як і іншых з падобнай тэматыкай;*

*— рэпартажы аб канфліктах паміж вернікамі і клірам (нп. парафіі Пшыязнь і Заверце);*

*б) падрыхтоўка радыёпраграм паводле кніг:*

*— К.Малцюжынскі — "Шпіён у кардынальскім мундзіры",*

*— К.Вайтыла — "Любоў і адказнасць",*

*— Хляндоўскі — "Рымскія аповесці",*

*— Валянцін — "Люкрэцыя Борджыя";*

*в) абмеркаванне друкам тэмаў:*

*— прадстаўленне грамадскасці фактаў выкарыстання сакральных аб'ектаў (касцёлаў, плябаяў) дзеячамі апазіцыі, асабліва былой "Салідарнасці", работніцкіх камітэтаў і арганізацыяў, Канфедэрацыі Незалежнай Польшчы;*

*— паказу негатыўнага ўплыву на моладзь, выхаванне яе ў антысацыялістычным духу на прыкладах канкрэтных клірыкаў, асяродкаў Акадэмічнага Душпастарства, дамініканаў і езуітаў у Кракаве, Варшаве, Лодзі, Вроцлаве, Гданьску, Любліне;*

*— публікацыяў у заходнім друку, якія дыскрэдытуюць візіт Папы Яна Паўла II як згоду са станам рэчаў у краіне. Перадрукаваныя артыкулы павінны суправаджацца рэдакцыйным каментаром;*

*— інтэрв'ю грамадзян на тэму спадзяванняў, звязаных з візітам. Магчыма карысць ізіту (медычная дапамога, магчымасць атрымання ці адклад выплаты замежных пазык, палітычная карысць).*

*2. З пазіцыі каталіцкіх догмаў павінны быць інспіраваныя публікацыі ў друку і выступы на тэлевізіі, якія паказалі б невыкананне іх Касцёлам. Належыць паказваць прыклады двудушнасці і адыходу касцельнай ерархіі ад абвешчаных імі лозунгаў экуменізму і адзінства ўсіх хрысціян. З гэтых жа пазіцыяў належыць выказаць сумненне ў адназначнасці інтэрпрэтавання Бібліі рымска-каталіцкім Касцёлам.*




*Варшава, гмах МУС.*

Палкоўнік Стэфан Сэлер сядзеў над паперамі ад самага ранку. Сёння мелася адбыцца ўжо трэцяе пасяджэнне аперацыйнай групы ў складзе шэфа папскага штаба генерала Карнашэўскага, ягонага намесніка палкоўніка Беяка і яго, палкоўніка Сэлера. Яны мусілі падрыхтаваць матэрыялы да абмеркавання Цэнтральным штабам МУС, праанілізаваць дзейнасць Касцёла і, што найважнейшае, падрыхтаваць планы дзейнасці 4 Дэпартамента МУС. Рыхтуючы свой выступ, Сэлер праглядаў нататкі з двух папярэдніх пасяджэнняў. Сустракаліся амаль два тыдні. Арганізацыйныя пытанні не складалі праблемы, іх паспяхова вырашаў Юзьвяк. Сэлер усміхнуўся, падумаўшы, што ў гэтым жвавым, невысокага росту чалавеку мала хто пазнаваў брата легендарнага першага кіраўніка Грамадзянскай міліцыі, таварыша Францішка Юзьвяка — "Вітольда".

Найбольш складаным было распазнаць накіраванасць кліру, таму ад самага пачатку вырашылі, што ў прапанаванай праграме візіту Папы належыць максімальна абмежаваць лічбу сустрэчаў і пунктаў побыту. Мелі сур'ёзны аргумент — бяспеку шаноўнага госця. Трэба падрыхтаваць інструкцыі тым дурням з камітэтаў, асабліва дарэчнымі тут будуць падрыхтаваныя ягоным Дэпартаментам жыццяпісы.

Так, задумаўся ён, ацэньваючы сітуацыю. Найбольш небяспечным выглядае супадзенне даты 26 чэрвеня з падзеямі ў Познані. Магчыма, яшчэ атрымаецца змяніць дату пачатку візіту з 22 на 16 чэрвеня. Яшчэ раз прагледзеў нататкі агентуры.

*У прапагандысцкай дзейнасці Касцёл выразна імкнецца злучаць ідэалогію з палітыкай. З гэтай мэтай выкарыстоўвае элементы спадзявання на паляпшэнне стану. 2 лютага стаў днём малітваў аб прыездзе Папы. Плануюць сустрэчы Папы з работнікамі, сялянамі, інтэлігенцыяй і людзьмі, што знаходзяцца на эміграцыі.*

— Ваш недагляд! — здушыў ён праклён і чытаў далей:

*Ідэолагі Касцёла спадзяюцца, што візіт будзе мець вялікія вынікі, разлічваюць на пашырэнне пасля яго грамадзянскіх свабодаў.*

Зірнуў на гадзіннік і прыспешыў прагляд нататак. Падкрэсліў, каб не забыць працытаваць, слушную заўвагу генерала Карнашэўскага.

*Папа прыедзе дзеля таго, каб узмацняць сацыялізм! Злучаныя Штаты будуць рабіць уціск, каб не прыехаў да нас. Касцёл мае іншыя мэты. Хоча атрымаць ідэалагічную падтрымку для апазіцыі. Звяртаю ўвагу таварышаў, што малітва ў касцёле з'яўляецца мабілізацыйным элементам.*

Паспешліва сабраў паперы і кінуў у сакратарыяце: — Іду да таварыша Карнашэўскага, буду праз дзве гадзіны, — рашучым крокам пашыбаваў у накірунку кабінета шэфа Цэнтральнага штаба МУС. Рэфлектыўна выпраміўся. У гэтай частцы міністэрства сакратарыяты асвячалі сваіх шэфаў павагай і не было месца свабоднаму захаванню. Калі ўвайшоў да генерала, ягоная не надта ладная, але затое абсалютна непрабівальная сакратарка, не адказаўшы на ягоную ўсмешку, суха паведаміла:

— Таварыш генерал чакае. Увайдзіце.

Палкоўнік Сэлер прыпыніўся ў адчыненых дзвярах, стаў на "зважай" і адрапартаваў:

— З вашага загаду, таварыш генерал!

— Сядайце, — генерал нядбалым жэстам паказаў Сэлеру на фатэль пры стале. У кабінеце ўжо сядзеў палкоўнік Беяк, які прыйшоў, як заўсёды, раней.

— Не маем часу на прадмовы, таму пяройдзем да справы. Таварыш, запрасіце стэнаграфістку, — сказаў генерал у мікрафон. Як з-пад зямлі з'явілася шчуплая, сярэдняга ўзросту супрацоўніца і моўчкі заняла месца за малым столікам побач.

— Запратакаліруйце і пасля скончэння нарады перадайце мне нататкі, — выдаў апошняе распараджэнне генерал і пачаў:

— Часова мы і нашая дзейнасць заблакіраваны недахопам канчатковых рашэнняў, але ўжо цяпер мы мусім распрацаваць папярэднія графікі дзеянняў. Датай пачатку візіту прымем 16 чэрвеня, тэрмін, вызначаны ў лісце да вернікаў, які Епіскапат накіруе 30 студзеня. На рэалізацыю ахоўных і арганізацыйных акцыяў яшчэ настане час. Перш за ўсё мы мусім падрыхтавацца да адпору выступаў палітычнай апазіцыі.

— Дазволю сабе заўважыць, — пачаў палкоўнік Сэлер пасля кіўка генерала, — што мы не маем падрабязнасцяў, акрамя праграмы побыту ў Чэнстахове і Варшаве. Таварыш Барцікоўскі раіць не ісці на пашырэнне праграмы. На погляд ЦК, мы не можам дазволіць сабе рэалізаваць ім месіянскую лінію візіту "ад Фацімы да Вострай Брамы". Чакаем, што пасля вяртання Глемпа справа высветліцца. А пакуль прапаную стварыць у тэрмін да 15 лютага аперацыйныя групы ў тых ваяводствах, якія наведае Папа. У астатнія ваяводствы перададзім інструкцыю, якога характару інфармацыя мусіць быць сабрана. У сакавіку мы мусім апублікаваць дырэктывы міністра і арганізаваць нарады актыву ваяводскіх камандаў міліцыі. На пачатку красавіка павінна адбыцца тэлевізійная канферэнцыя. Да таго часу трэба апрацаваць план акцый аперацыйнага забеспячэння, палітычна-прапагандысцкіх і аперацыйных. Спатрэбіцца сістэма прапускоў і картак доступу. Прапаную, каб гэтым занялося Бюро ЦК.

Сэлер прыпыніўся і зірнуў на прысутных. Генерал выглядаў задаволеным.

— Прапановы прымаюцца. Яшчэ занатуйце пункты кансультацый з Епіскапатам: трэба абгаварыць наконт машыны для Папы. Таварышы з ЦК лічаць, што зблізэнне з грамадскасцю, як гэта адбылося пад час апошняга візіту, недапушчальнае. Мы павінны, матывуючы гэта пытаннямі бяспекі, аддаліць Папу ад людзей. Непрымальнымі ёсць прапановы сустрэчаў з інтэрніраванымі ці Валенсам. Ксяндзам трэба зразумець — гэта нашыя ўмовы! — згадка пра Валенсу знервавала генерала. — Нам засталося ўзгадненне ўмоваў перадач з радыёкамітэтам і арганізацыя рабочага прагляду перадач. Гэта будзе найлепшым спосабам кантролю паводзінаў апазіцыі. Далей: пры ЦК ПАРП будзе дзейнічаць Цэнтральны Дзяржаўны Палітычны Камітэт. Будуць таксама створаныя рабочыя групы прапаганды, сувязяў з друкам, транспарту, медычнага абслугоўвання, гандлю.

— Таварыш Сэлер! — звярнуўся генерал да дырэктара Чацвёртага Дэпартамента. — Вам застаецца да выканання найважнейшае заданне: мусіце апрацаваць "акт абвінавачвання" супраць Касцёла. Ён павінен агарнуць грахі кліру, напрыклад, выступленні ў касцёлах людзей "Салідарнасці", прамовы Папялушкі ці Мазавецкага, напады на ўладу, абарону ды іншае. Урэшце, ведаеце самі, — зірнуў ён на гадзіннік. — На сёння хопіць.

Пратакалістка падала генералу нататкі і ціха выйшла з кабінета.

(Працяг будзе).

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

## Інфа-крым

### ПЛАКАЛІ НАШЫ НАДЗЕІ?

Учынкі нашых юных суайчыннікаў, якія вельмі не хочуць адставаць па некаторых крымінальных паказчыках ад старэйшых "настаўнікаў", у апошні час не толькі ўражваюць уяўленне, але і прымушаюць задумацца пра гэта, як пра з'яву, што набывае ўсё больш масавы характар. Мяркуйце самі.

У мінулы панядзелак супрацоўнікамі крымінальнага вышуку міліцыі Кастрычніцкага раёна сталіцы затрыманы тры 17-гадовыя "пэтэвушнікі", якія пад покрывам ночы, пераскочыўшы цераз плот сховішча ВА "Гарызонт", сцягнулі адтуль 300 метраў меднага дроту. Мясцовы ахоўнік –"божы адуванчык", вядома, у гэты час бачыў прыемныя сны.

У той жа дзень у выніку напружаных і скрупулёзных пошукаў сышчыкаў былі затрыманы яшчэ два непаўналетнія, якія яшчэ ў верасні–пачатку кастрычніка аналагічным чынам "наведалі" тэрыторыі некаторых дзяржпрадпрыемстваў. Устанавілі, што менавіта гэтыя два маладыя чалавекі ў ноч на 17 верасня выкралі з будоўлі па вуліцы Трасцянецкай (новы будынак магазіна "Наглядныя дапаможнікі") 28 метраў сілавога меднага кабелю ад вежавага крана.

Між іншым, у Мінску хапае і кандыдатаў у "дзеці лейтэнанта Шміта". Некалькі дзён таму назад геній грамадзяніна А.Бэндара прачнуўся ў 17-гадовым Сяргею Я., які (па ўсіх канонах ільфапятроўскіх аповедаў) нідзе не вучыцца і не працуе. Першы экзамен на "шмітаўскую" сталасць гэты юнак вытрымаў з поспехам. А сутнасць выпрабавання была ў тым, што на працягу гадзіны (сярод белага дня) Сярожа здолеў "загнаць" за 15 тысяч чужы камерцыйны кіёск. Прыйшоў – убачыў, прадаў. Пасля акта куплі-продажу гэтую яркую новую з'яву айчыннай дэмакратыі зараз жа перавезлі прадпрыемствы-пакупнікі на іншую вуліцу. Прадавец, вядома, знік бясследна. Праўда, толькі часова. Зараз навасьпечаны А.Бэндар перадае свой першы вопыт суседзям па камеры ў КПЗ.

Супрацоўнікамі аператыўна-пошукавага аддзела УУС Мінгарвыканкама на вуліцы Батанічнай былі "вылічаны" дзве чароўныя асобы з паэтычнымі імёнамі Дзіяна і Анжэла, якія пасля сумеснай п'янкі з адміністратарам аднаго з магазінаў Першамайскага РХГ выкралі з кватэры апошняй сякое-такое золата.

Надзеі на нармальнае, некрымінальнае падрастаючае пакаленне прыходзіць канец?

Сяргей РАЧЫЛА,
УУС Мінгарвыканкама.

*Наглядзеўшыся розных баевікоў, яны таксама марылі аб подзвігах, лёгкім і ў той жа час шыкоўным жыцці. Але як усё гэта займець, калі на цэнніках стаяць лічбы, недасягальныя нават для большасці дарослых?*
*І вырашылі сямікласнік Цімафей Лапцёнак і шасцікласнік Уладзімір Красінскі са Смалявіч дзейнічаць, як у лепшых замежных кінабаевіках.*

# АМАЛЬ ПА КІНАСЦЭНАРЫЮ

## дзейнічалі падлеткі пад час злачынства

Спачатку некалькі разоў наведалі Смалявіцкі універмаг, прыглядаліся да вітрын, вывучалі размяшчэнне аддзелаў, дзвярэй, якія вядуць у падсобныя памяшканні, карацей, прымянялі распрацаваны план дзеянняў да канкрэтных умоў. Гэта яшчэ днём заўважыў адзін з прадаўцоў, які стаяў на кантролі, але не надаў значэння своеасаблівым паводзінам падлеткаў.

Вывучыўшы размяшчэнне аддзелаў, хады і выхады з гандлёвай залы універмага, хлопцы распрацавалі свой план дзеянняў. У канцы дня яны вырашылі схавацца ў адным з падсобных памяшканняў, а ноччу, калі магазін будзе зачынены, узяць там столькі, колькі душа пажадае. Так і зрабілі. Прадаўцы, якія абыходзілі памяшканні пры закрыцці магазіна, так і не заўважылі іх...

Выбар у магазіне аказаўся багатым, тым больш, што ўсё можна было браць бясплатна і ў неабмежаванай колькасці. Ніхто не перашкаджаў прымерваць адзенне, выбіраць абутак, радыёапаратуру. У камерцыйным аддзеле вельмі прывабілі наклейкі на пляшках. Спіртныя напіткі замежнай вытворчасці таксама прыхапілі з сабой. Рукзак напакавалі фотаапаратамі, компасамі, іншымі таварамі, якія намерваліся забраць.

"Гаспадарылі" да дзвюх гадзін ночы. Адыходзіць вырашылі праз акно. У гэты час якраз і спрацавала сігналізацыя. Калі дзяжурная група раённага аддзела ўнутраных спраў прыбыла на месца, то там ужо нікога не было.



З пункту гледжання арганізацыі "аперацыі", для свайго ўзросту хлопцы дзейнічалі надрэнна. Пасля сябе доказаў злачынства амаль не пакінулі. Зрэшты, невялікі вопыт у такой справе ў іх ужо быў: яны і раней учынялі праваапарушэнні, стаялі на ўліку ў камісіі па справах непаўналетніх.

Такую характарыстыку далі карэспандэнту ў раённым аддзеле ўнутраных спраў. Падлеткі часта былі аддадзены самі сабе і вуліцы, якая фарміравала іх па-свойму. І выхавала. Паводле слоў аднаго з супрацоўнікаў міліцыі, для свайго ўзросту гэта ўжо злачынцы ў мініяцюры. Яны замкнутыя, лішняга слова не скажуць. І гады праз тры-чатыры навучацца "замятаць сляды" за сабой.

...Затрымалі юных злачынцаў ужо пад раніцу, калі былі абследаваны ўсе магчымыя сховы. Яны накіроўваліся, як гаварылі, у Узду проста так, для баўлення часу. А свае дзеянні тлумачылі, як героі ў кіно.

А. ЛІЙКО.
Смалявіцкі раён.

# "НЕ САРОМЕЮСЯ ТАГО, ШТО Я — ПРАСТЫТУТКА..."

Дзяўчыну гэту я заўважыў яшчэ на аўтобуснай платформе. Высокая, стройная, у расшпіленым плашчы, з-пад якога віднеліся прыгожыя доўгія ногі, — яна здавалася казачнай каралевай сярод згорбленых бабулек з клункамі, "рознакаляровых" дзяўчынак з кілаграмамі касметыкі на тварах...

Падрулў маршрутны аўтобус "Мінск—Нарач". Мой. Прыгожая дзяўчына некуды знікла, і я, падхапіўшы сумку, патупаў у салон. Там хутка знайшоў сваё месца і, о, цуд!, ля акна сядзела яна — тая ж прыгажуня...

Мы разгаварыліся. Спадарожніцу маю, як аказалася, звалі Ларысай, яна мінчанка, студэнтка.

— Але вучобай я займаюся толькі ў свабодны ад работы час.

— Не зразумеў... А кім ты працуеш?

— О, прафесія ў мяне самая, як кажуць, старажытная. Не здзіўляйся. Сапраўды, я прастытутка. Як бачыш, я ніколькі не саромеюся прызнавацца ў гэтым. Бо даю людзям тое, што яны патрабуюць, нікога не падманваючы і не абабіраючы (як гэта робяць розныя каапeратары, так званыя бізнесмены, ды і прадстаўнікі ўлады). І ўвогуле лічу, што кожны павінен займацца тым, што яму падабаецца.

— І табе падабаецца гандляваць сабой, сваім целам?

— Шчыра кажучы, не вельмі. Але мне падабаецца тое, што я ад гэтага гандлю атрымліваю, — грошы.

Як высветлілася, у Ларысы не існуе цвёрдай таксы за свае паслугі. З замежных грамадзян яна бярэ толькі валюту, 300—400 даляраў за ноч (у залежнасці ад патрабаванняў, якія 'прад'яўляе ёй кліент), у прадстаўнікоў паўднёвых нацыянальнасцей (армян, грузін і г.д.) ад сямі да дзесяці тысяч рублёў (такcама ў залежнасці ад патрабаванняў). А нашы СНД-ўскія славяне могуць купіць ноч кахання Ларысы тысяч за пяць. Але ўсе гэтыя цэны — часовыя. "Расце інфляцыя, расце і кошт майго цела".

— Прабач, а як жа ты адрозніваеш усіх гэтых людзей? Няўжо па пашпарту?

— Не, канешне. Пашпарт мне не патрэбны. Я ўжо больш за пяць гадоў займаюся прастытуцыяй і за гэты час навучылася адрозніваць "золата ад біжутэрыі".

Зараз Ларысе 21. Гандляваць сабой пачала яшчэ ў школе. Як прызналася яна сама, для таго, каб расказаць пра сваё жыццё прастытуткі, ёй не хапіла б і тыдня. Сказала толькі, што пачалося ўсё пасля таго, як яе згвалтаваў настаўнік, які вёў у іх школе рускую літаратуру.

— Тады я нічога нікому не расказала: баялася бацькоў.

— А зараз бацькі тваe ведаюць, чым ты займаешся?

— Як гаворыць, шыла ў мяшку не схаваеш. Ведаюць, канешне. Але і слёзы маці, і пагрозы бацькі ўжо засталіся ззаду. Яны не апраўдваюць мяне, але ведаюць, што мяне ўжо нічым не спыніць. Ды і што яны могуць зрабіць? Асабліва пасля таго, як я купіла сабе трохпакаёвую кватэру. Жыву цяпер адна. Але гэта не значыць, што ў мяне ў кватэры бардэль. Не. З кліентамі я працую толькі на іх "тэрыторыі".

— А ці былі такія выпадкі, каб кліенты цябе падманвалі, не плацілі?

— Сустракаліся, канешне, і такія. Але ўсе яны пасля вельмі шкадавалі аб гэтым. Проста ў мяне ёсць свае сябры, якія заўсёды прыйдуць на дапамогу. Прычым бясплатна. Хаця і ведаюць, што я нядрэнна зарабляю.

— А як жа канкурэнцыя?

— Пакуль што ні разу не сутыкалася. Я ведаю, куды мне не трэба ўлазіць, а куды можна. Дык вось гэтых "нейтральных" тэрыторый мне хапае.

Хапае... Як падкрэсліла Ларыса, яна ніколі доўга не "заседжваецца" на адным месцы. Можа, дзякуючы гэтаму яе пакуль што абмінулі сустрэчы з канкурэнткамі...

— Ларыса, а праўду гавораць, што іншаземцы больш тактоўныя, уважлівыя і г.д.?

— Не. Такія ж людзі. Са сваімі прывычкамі, патрабаваннямі. Так што не трэба згушчаць фарбы, як у адносінах да іх (маўляў, ах, якія добранькія), так і ў адносінах да нашых мужчын (быццам бы яны і цёмныя, і некультурныя). Людзі ёсць людзі.



Мы яшчэ доўга размаўлялі з Ларысай. Як высветлілася, на Нарач яна едзе адпачываць. А чаму не летам, а восенню? Аказалася, што Ларысе без розніцы, якая зараз пара года. "Выдатна адпачыць можна заўсёды: былі б грошы".

— Трэба перадыхнуць ад горада. Вось прыеду на Нарач, знайду цікавага хлопца і падару яму сябе на ўвесь адпачынак. Задарма. Няхай пажыве прыгожым жыццём з прыгожай дзяўчынай.

— А якая ў цябе мэта?

— Мэта? Па праўдзе сказаць, не задумвалася. Я проста жыву...

Франц ЛЯВІЦКІ.

# КУФЭРАК З КАШМАРАМІ

**Альфрэд Хічкок ПРАДСТАЎЛЯЕ**

**Перад вамі — два кароткія дэтэктывы. Але дэтэктывыгэтыя незвычайныя. Яны ўзяты са зборн іка "Забойствы, у якія закаханы", складзенага сусветна вядомым кінарэжысёрам А. Хічкокам.**

**Ужо адно імя класіка "кашмарнага"кіно пацвярджае, што вас чакае не толькі захапляльнае,але нават жахлівае чытанне.**

Мак МОРЫС

## ВЕТЛІВАСЦЬ У ГАРАХ

Картэр Бетан ехаў стоячы ў кузаве грузавіка. Ён нахіліўся наперад над кабінай, і канцы яго доўгіх чорных валасоў хвасталі лоб. Адчуванне было быццам ад уколаў маленькіх іголак і такое пастаяннае, што лоб анямеў, і ён перастаў звяртаць на яго ўвагу.

Не звярнуў ён увагу і на вочы мужчын у грузавіку, спачувальныя вочы, калі яны спыніліся, каб пасадзіць яго і падвезці ў горад. Ён бачыў іх вочы, але мозг яго быў анямелы.

Так было ўжо некалькі дзён.

Калі прыехаў шэрыф, Картэр Бетан церабіў рукаў сваёй старой ваеннай кашулі — кашулі, у якой ён дэмабілізаваўся, з жоўтай эмблемай, цяпер ужо зморшчанай і амаль белай. Ён не адрываючыся глядзеў на плямы крыві на выцвілым, замытым адзенні. Сляды сяржанцкіх нашывак таксама амаль сцёрліся. Але кроў была свежай — ярка-чырвонай, і ён, амаль здранцвелы, глядзеў на яе.

Ён гаварыў марудна, разгублена:

— Я апрацоўваў градку тытуню і бачыў, як яна пайшла ў бок дарогі. Але я не надаў значэння. Яна ведала, што нельга выходзіць на дарогу. Яна была паслухмяным дзіцем у гэтых адносінах, ніколі далёка не адыходзіла. Я сказаў Ганне, што прывяду яе назад.

Ён глянуў на рукаў сваёй кашулі.

— Я гэта і зрабіў.

Шэрыф слухаў яго з пачуццём няёмкасці. Скура яго рэменя і кабуры паскрыпвала, калі ён пераносіў вагу на другую нагу. Яго пытанне прагучала амаль пяшчотна:

— Ты ж так і не бачыў ніякай машыны, так, Картэр?

— З-за гары не бачнае тое месца на шашы, дзе я знаходзіўся. Я нічога не бачыў, шэрыф,— сказаў Картэр, павольна выгаворваючы кожнае слова,— я толькі чуў. Усяго два транспарты прайшлі міма.

Калі слова "транспарт" і прагучала дзіўна, Картэр гэтага не ўсведамляў. У арміі любая машына — транспарт, якой бы яна ні была вагі і памераў. Картэр Бетан быў салдатам доўгі час, даўжэйшы, чым ён быў былым салдатам, даўжэйшы, чым ён зноў быў дома, у Тэнесі, і жанатым, і бацькам.

— Я чуў, як яны ехалі ад горада вельмі хутка адзін за адным. Раптам прытармазілі, абодва, калі якраз былі тут. Потым зноў паехалі на вялікай хуткасці. Я і ўвагі не звярнуў тады.

Скураныя рамяні шэрыфа скрыпнулі гучней:

— Мне шкада, сынок. Нельга вызначыць машыну на слых — ніяк, калі знаходзішся на другім баку гары. Любы адвакат абвергне гэта на судзе.

Малады чалавек стаяў моўчкі, цярэбячы рукаў, і на ўчастку дарогі ўсталявалася цішыня.

— Так,— сказаў ён,— напэўна адвакат абвергне гэта.

— Мы зробім усё, што зможам, сынок.

— Я буду вельмі абавязаны, шэрыф. Яна цяпер памерла. І мала што мы можам зрабіць.

— Так, калі толькі нам не пашанцуе.

— Напэўна, так. Мне ніколі па-сапраўднаму не шанцавала. А вам, шэрыф?

— Мне шкада, сынок,— сказаў шэрыф.— Ва ўсялякім выпадку мы зробім усё, што зможам. Гэта цяжка без сведкаў. Павінен здарыцца амаль цуд, каб дабіцца справядлівасці ў падобным выпадку. Я сумняваюся нават, ці засталася ўвагнутасць на машыне, яна была такой маленькай дзяўчынкай...

Ён ужо не чуў шэрыфа, таму што ў яго ўсё анямела. Шэрыф адвярнуўся ад яго і сурова звярнуўся да сваіх памочнікаў.

— Паехалі далей, да Джылі,— сказаў ён.— Быў званок зноў аб нейкіх непрыемнасцях там. Падобна, што некаторыя ўжо нараджаюцца нягоднікамі.

Ён зноў звярнуўся да Картэра і сказаў:

— Мне шкада, сынок. Мы зробім усё, што зможам.

Малады чалавек не адчуў, як шэрыф збянтэжана дакрануўся да яго рукой.

Зараз Картэр Бетан стаяў на шырока расстаўленых нагах і раскачваўся, гледзячы, як вузкая дарога хавалася пад коламі, паварочваючы, паднімаючыся і крута апускаючыся, як гэта бывае ў гарах. З кабіны чулася шумная размова, якая гучала аддалена і слаба з-за шуму грузавіка і ветру ў вушах.

Ззаду запытальна прагучаў сігнал аўтамашыны, і Картэр Бетан рассеяна паказаў рукой, што наперадзе дарога свабодная. Гэта было ветлівасцю, звычайнай на дарогах у гарах. Машына ўпэўнена пайшла наперад. Малады чалавек глянуў на яе, і яго анямелы мозг зафіксаваў: шэўрале-36 седан.

Малады чалавек належаў да пакалення, у якім натрэніраванасць у вызначэнні ўсіх марак і мадэляў аўтамабіляў з'яўлялася прадметам гонару, і гэты навык аказаўся карысным у час вайны, таму што быў часткай існавання таго пакалення. У гарах машына стала механічным працягам жыцця, як некалі вінтоўка, і як вінтоўка яна была інструментам смерці.

Абапіраючыся на кабіну грузавіка, гайдаючыся разам з нахіламі шырокай падлогі кузава, Картэр Бетан стаяў, як бы здранцвелы, на халодным ветры. Ён абыякава назіраў, як грузавік упісваўся то ўлева, то ўправа, у знаёмыя павароты дарогі, якая вяла ў горад. Не было патрэбы сканцэнтроўваць увагу на дарозе: Картэр ведаў яе на памяць, і гэтымі паваротамі яна суцяшала яго, як сябар, у яго бездапаможнай злосці і болі.

Ён не паварочваўся да той пары, пакуль не пачуў зноў сігнал аўтамабіля.

Джып быў ярка-аранжавы, з надпісам "Браты Джылі. Станцыя абслугоўвання" на раме ветравога шкла. Яго вадзіцель уважліва глядзеў на маладога чалавека ў кузаве грузавіка, потым выглянуў за грузавік, каб убачыць дарогу наперадзе. Картэр падставіў твар ветру; не паварочваючыся, ён падаў вадзіцелю сігнал чакаць, ехаць за грузавіком. Машына, якая ляцела ім насустрач, хутка прамчалася міма. Джып нецярпліва кінуўся ўлева, на цэнтр дарогі. Рука Картэра зрабіла адмашку назад. Зноў па супрацьлеглай паласе прайшла машына.

Грузавік, з джыпам амаль пад заднім бортам, увайшоў у доўгі S-падобны паварот: направа, потым налева, потым зноў направа, спачатку пад гару, потым на сярэдзіне павароту, уверх. Джып рэзка выстраліў знаёмай выхлапной трубой — незабыўны, беспамылкова пазнавальны гук,— калі матор сцішыў ход на спуску. Вадзіцель сачыў за рукой Картэра.

Лоб Картэра анямеў яшчэ больш, вецер падзьмуў мацней, калі ён павярнуў да яго твар. Але яго мозг імгненна стаў ясным і вострым. На другім канцы S-падобнага павароту, на супрацьлеглай гары, ён убачыў прамільгнуўшую пляму аранжавага колеру. Ён сачыў за ёй з халодным разлікам, цяпер ужо больш не бездапаможны.

Ён азірнуўся на аранжавы джып ззаду. Вочы вадзіцеля былі сканцэнтраваны на Картэры; злёгку падняліся вышэй за руку, якая папярэджвала аб небяспецы. Нейкі момант два мужчыны глядзелі адзін на аднаго, як бы загіпнатызаваныя адчуваннем ветру і хуткасці.

Потым, калі ён адчуў, што грузавік адхіляецца ўлева, Картэр перанёс вагу на другую нагу, каб захаваць раўнавагу, зноў павярнуўся тварам да ветру і ўвесь напружыўся.

Ён адчуў, як падлога грузавіка пайшла ўверх, прыціскаючыся да яго ступняў, на выгіне сярэдняй крывой. Ён змяніў свой сігнал і адмахнуў джыпу "наперад" доўгім грацыёзным рухам левай рукі — жэст упэўненасці, абсалютнай надзейнасці.

Нецярплівы джып, які ледзь цягнуўся ззаду, імгненна рвануў улева. Грукат удару аранжавага з аранжавым быў намнога мацнейшым, чым шум ветру.

Грузавік затармазіў і спыніўся, і Картэр, і трое з кабіны скокнулі з машыны і пабеглі назад, да сутыкнутых джыпаў. Стаяла поўная цішыня пасля шуму ветру. Галасы мужчын гучалі ў ёй прыглушана. Спачатку яны крычалі, потым загаварылі ціха, па звычцы і з глыбокай пашанай.

— Абодва браты Джылі — галава ў галаву.

— Божухна, гляньце на іх! Яны ніколі нікому не давалі вадзіць свае джыпы. Калі б гэтага не ведаць, ніяк не скажаш, хто гэта, так?

Яны тапталіся вакол, назіраючы, як кола круцілася ўсё больш павольна.

— Я ведаў, аднойчы з імі што-небудзь здарыцца, так гэтыя вар'яты ездзілі.

Калі кола спынілася, чалавек, які гаварыў апошнім, сказаў:

— Ну, паехалі, паклічам шэрыфа. Тут мы нічога зрабіць не можам.

Потым ён дадаў:

— Я думаю, гэта апошняя непрыемнасць, якая была ў шэрыфа з братамі Джылі. Бог сведка, у яго іх было дастаткова. У яго і многіх іншых. Падобна, што гэтыя двое нарадзіліся нягоднікамі.

Ён павярнуўся да Картэра і неяк недарэчна, быццам быў у шоку, спытаў:

— Табе там добра ехаць наверсе, хлопец? Я і забыўся пра цябе.

Картэр кіўнуў, потым дадаў гэткім жа спакойным тонам:

— Я збіраўся паехаць на станцыю з адным з іх. Я чуў, што адзін з джыпаў праехаў ад горада нейкі час назад, і чакаў, што ён будзе вяртацца.

— Табе б давялося чакаць яго вечнасць.

— Не,— сказаў Картэр, пералазячы цераз задні борт.— Я не думаў, што доўга прыйдзецца чакаць там ці тут, таго ці другога.

Мужчыны, якія стаялі на дарозе, не чулі яго. Усё яшчэ ў стане жаху, адзін з іх сказаў:

— Дзіўна, калі падумаць пра гэта, так? Гэта ж, можна сказаць, адзіныя два джыпы, якія сустракаеш на гэтай дарозе.

Мужчыны забраліся ў машыну — і грузавік рушыў. Зноў абапіраючыся аб дах кабіны, Картэр Бетан думаў пра тое, што цяпер яго паездка ў горад не мае сэнсу. Магчыма, яму б і не спатрэбіліся больш чым два патроны, якія былі ў яго аўтаматычным пісталеце 0,45 пад кашуляй. Але было б лепш мець магазінную каробку поўнай. Цяпер гэта не мела значэння.

Ззаду зноў прагучаў сігнал аўтамашыны, і рука Картэра Бетана імгненна прасігналіла "асцярожна". Яны набліжаліся яшчэ да аднаго выгіну дарогі.

Эдвард ХОЧ

## ЧАЛАВЕК-ЦЕНЬ

Першы раз ён заўважыў гэтага чалавека па дарозе са станцыі дамоў. Гэта быў высокі і худы мужчына. Па яго выгляду Рэй мог сказаць, што той быў англічанінам. Ён не мог гэта растлумачыць, проста хлопец выглядаў як англічанін.

Гэта ўсё, што тычыцца іх першай сустрэчы. Другая адбылася гэтак жа выпадкова ў пятніцу вечарам на станцыі. Хлопец жыў недзе каля Пэлхама, можа, у тым новым шматкватэрным доме ў суседнім квартале.

Але на наступным тыдні Рэй пачаў заўважаць яго ўсюды. Высокі англічанін ездзіў з ім у Нью-Йорк на цягніку 8.09 і аднойчы апоўдні абедаў праз некалькі столікаў ад яго ў Гаварда Джонсана. Але такое здараецца ў Нью-Йорку, супакойваў сябе Рэй, калі іншы раз сустракаеш каго-небудзь кожны дзень на працягу тыдня, як быццам законаў верагоднасці не існуе.

Быў уік-энд, і Рэй з жонкай паехалі ў Стэмфард на пікнік. Англічанін працягваў сачыць за ім нават там, у пяцідзесяці мілях ад дому. Высокі незнаёмец ішоў не спяшаючыся шырокімі крокамі сярод узгоркаў, час ад часу спыняючыся, каб палюбавацца прыродай.

Нарэшце неяк вечарам па дарозе дамоў, Рэй Бэнкфорд не вытрымаў. Ён падышоў да мужчыны і спытаў:

– Вы што, сочыце за мной?

Англічанін апусціў вочы, азадачана нахмурыў бровы.

– Прашу прабачэння?

– Вы сочыце за мной?– паўтарыў Рэй.– Я паўсюль вас сустракаю.

– Дарагі мой, запэўніваю вас, вы, мусіць, памыляецеся.

– Я не памыляюся. Перастаньце праследаваць мяне.

Але англічанін толькі сумна паківаў галавой і пайшоў, А Рэй стаяў і глядзеў яму наўздагон, пакуль той не знік з поля зроку.

– Лінда, сёння я зноў яго бачыў!

– Каго, дарагі?.

– Гэтага праклятага англічаніна. Ён быў у ліфце, у маім будынку.

– Ты ўпэўнены, што гэта быў менавіта ён?

– Вядома. Я ж табе казаў, што ён паўсюль! Я яго сустракаю штодзень, на вуліцы, у цягніку, у час ланча, і вось зараз у ліфце! Гэта зводзіць мяне з розуму. Я ўпэўнены, што ён мяне праследуе. Але чаму?

– Ты з ім размаўляў?

– Я размаўляў з ім, пагражаў яму, крычаў на яго. Але гэта нічога не дало. Ён быў здзіўлены і знік. І вось, на наступны ж дзень з'яўляецца зноў.

– Можа табе трэба патэлефанаваць у паліцыю? Але я думаю, ён жа нічога канкрэтна не зрабіў.

– Вось у гэтым і праблема, Лінда. Ён не зрабіў нічога канкрэтнага. Адзінае – гэта тое, што ён увесь час круціцца вакол мяне. Ліха на яго, я вар'яцею!

– Што... што ты збіраешся рабіць?

– Я табе скажу, што я збіраюся рабіць! У наступны раз, калі я яго ўбачу, то збіраюся схапіць яго і ўсё з яго выбіць. Я адшукаю прычыну.

Наступным вечарам высокі англічанін з'явіўся зноў. Ён ішоў перад ім па чыгуначнай платформе. Рэй пабег да яго, але англічанін знік у натоўпе.

Магчыма, усё гэта было супадзеннем... і ўсё ж...

Крыху пазней, тым жа вечарам, у Рэя скончыліся цыгарэты,і, калі ён выйшаў з дому і накіраваўся да аптэкі на рагу, ужо ведаў, што высокі англічанін будзе чакаць яго дзе-небудзь па дарозе.

Калі ж ён апынуўся пад бледным чырванаватым святлом мігаючых неонавых лямпаў, то ўбачыў гэтага мужчыну, які павольна пераходзіў вуліцу ад чыгуначнага палатна.

Рэй ведаў, што гэта будзе апошняя сустрэча.

– Гэй, давай пагутарым!

Англічанін спыніўся і з агідай глянуў на яго, потым павярнуўся і пайшоў прэч.

– Гэй, ты, пачакай! Давай разбяромся раз і назаўсёды!

Але англічанін не спыняўся.

Рэй вылаяўся і кінуўся за ім у цемру.

– Падыдзі сюды,– крыкнуў ён, але цяпер англічанін амаль бег.

Рэй хутка ішоў за ім па вузкай вуліцы ўздоўж чыгуначнага палатна.

– Каб цябе чорт узяў, ідзі сюды! Я хачу пагутарыць з табой.

Але англічанін рухаўся хутчэй і хутчэй. Нарэшце Рэй, задыхаючыся, спыніўся.

Англічанін таксама спыніўся наперадзе.

Рэй убачыў слабы водбліск ад яго наручнага гадзінніка, калі той падняў руку і павадзіў яго за сабой.

Рэй зноў кінуўся бегчы. Англічанін крыху пачакаў і таксама пабег, трымаючыся паблізу чыгуначнага насыпу. Толькі ў некалькіх дзюймах ад яго на глыбіні дваццаці футаў знаходзілася чыгуначнае палатно.

Удалечыні Рэй пачуў нізкі гудок Стэмфардскага экспрэса, які імчаўся праз ноч.

Англічанін наперадзе абышоў цагляную сцяну, якая даходзіла амаль да краю насыпу. На нейкі час ён знік з поля зроку, але цяпер Рэй амаль дагнаў яго. Ён абышоў сцяну і ўбачыў, ужо занадта позна, што англічанін чакаў яго там.

Моцныя рукі схапілі Рэя і зараз жа штурхнулі ўбок, за край насыпу. Рэй бездапаможна хапаў рукамі паветра.

Апошняе, што ён убачыў,– Стэмфардскі экспрэс, які рухаўся на яго і запаўняў усё навокал сваім жудасным грукатам.

* * *

Праз некаторы час высокі англічанін, пазіраючы праз клубы блакітнага цыгарэтнага дыму на ладную фігурку Лінды Бэнкфард, гаварыў:

– Як я заўважыў у самым пачатку ўсёй гэтай гісторыі, сапраўднае забойства – гэта майстэрства.

## КІНААФІША

### "ІСУС"

Гэтая амерыканская каляровая кінакарціна з'явіцца сапраўдным адкрыццём для ўсіх гледачоў. Яе паглядзела ўжо звыш паўмільярда чалавек у многіх краінах свету. Магчыма, што да канца 1993 года фільм будзе перакладзены больш чым на 270 моў!

Карціна "Ісус" – гэта цудоўная экранізацыя Евангелля ад Лукі, якое ўсе прызнаюць найбольш поўнай гісторыяй Хрыста са ўсіх чатырох Евангелляў.

Вялікай праблемай для стваральнікаў фільма быў выбар акцёра на унікальную ролю Ісуса Хрыста. 5 тысяч чалавек прэтэндавала на яе. Англійскі акцёр Брайн Дзікан з Каралеўскай Кампаніі імя Шэкспіра быў выбраны ў выніку конкурсу на ролю Хрыста.

### "ХРОСНЫ БАЦЬКА. ЧАСТКА III"

Вытворчасць кінастудыі "Парамаўнт пікчэрс", ЗША. Аўтары сцэнарыя – Фрэнсіс Форд Капола і Марыо П'юза, рэжысёр – Фрэнсіс Форд Капола.

Гэты каляровы мастацкі фільм завяршае вядомую трылогію пра магутнае зладзейскае сямейства Карлеоне. У аснову трэцяй часткі пакладзены раман Марыо П'юза "Смерць Майкла Карлеоне".

У фільме зззяюць сваім непаўторным майстэрствам бліскучыя зоркі Галівуда – Аль Пачына, Дайэн Кітан, Эндзі Гарсія, Талія Шайр, Брыджыт Фонда, Рычард Брайт.

### "СЕМ ДЗЁН ПАСЛЯ ЗАБОЙСТВА"



Карціна створана сумесна кінематаграфістамі ЗША і Азербайджана. Аўтар сцэнарыя – Рустам Ібрагімбекаў, рэжысёр-пастаноўшчык – Расім Аджагаў.

Жанр, у якім знята гэта захапляючая каляровая мастацкая кінастужка, – псіхалагічны дэтэктыў.

...У генерала Міхаіла Рамановіча тры дачкі. Дзве з іх ужо ўладзілі свой лёс. У старэйшай муж – спартсмен -літовец, у сярэдняй, Лены, – навуковы супрацоўнік. Толькі Даша, малодшая дачка генерала, пакуль адзінокая, і яе асабістае жыццё не вельмі вядома бацькам.

А даведацца пра ўсё аб Дашы ім не шкодзіла б. Бо іх малодшая дачка прыахвоцілася да наркотыкаў...

Фільм прываблівае не толькі напружаным сюжэтам, але і высокапрафесійнай ігрой акцёраў, якія здымаліся ў ёй, – Тацяны Лютаевай, Данатаса Баніоніса, Юрыя Якаўлева.

Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія паведамляе, што Нямецкая служба акадэмічных абменаў (ДААД) з кастрычніка гэтага года аб'яўляе праграму навуковых абменаў для Рэспублікі Беларусь. Служба арганізуе і фінансуе ва універсітэтах Федэратыўнай Рэспублікі Германія вучобу маладых беларускіх вучоных, якія маюць закончаную адукацыю (дыплом), і ўзрост якіх на пачатак знаходжання ў ФРГ не перавышае 32 гадоў.

У сувязі з гэтым пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь праводзяць інфармацыйную сустрэчу для маладых вучоных, якіх цікавіць вышэйпамянёная праграма. На ёй прадставяць праграму і растлумачаць умовы конкурсу.

Сустрэча адбудзецца ў аўторак, 27 кастрычніка, у 11.00 у актавай зале Беларускага дзяржаўнага універсітэта па адрасу: Мінск, пл.Незалежнасці.

Сардэчна запрашаем усіх зацікаўленых маладых вучоных і студэнтаў, якія заканчваюць вучобу.



## *Перапіска*

"Добры дзень, дарагая рэдакцыя "ЧЗ"!

Маё імя Іра. Мне 16 гадоў. Вельмі люблю чытаць газету і выпісваю яе, а яшчэ вельмі падабаецца рубрыка "Перапіска". Захацела напісаць вам. Я вельмі хачу, каб вы надрукавалі мой адрас. Я люблю групу "Тэхналогія", "Кар-мэн". Вучуся ў вучылішчы на II курсе. Яшчэ мне падабаецца рубрыка, дзе расказваюць усё пра музыку, друкуюць фотаздымкі розных груп, якія пакуль мала вядомы.

На гэтым я заканчваю сваё пісьмо. Да пабачэння. Усяго вам самага найлепшага і поспехаў!

Мой адрас: 246003, г.Гомель, вул.Дакутовіч, д.48. Ірына."

* * *

"Дзень добры, паважаная "Чырвоная змена".

Вельмі падабаецца мне ваша рубрыка "Перапіска". Вы робіце высакародную справу! Дзякуй вам за гэта!

Вось і я вырашыў звярнуцца да паслуг "Перапіскі". Праўда, друкаваць цэлае пісьмо для мяне дарагавата, таму прашу апублікаваць мой адрас і, калі магчыма, кароткія звесткі пра мяне: Ігар, 16 гадоў, жадаю пазнаёміцца з дзяўчынай гэтага ж узросту.

Мой адрас: 211930, Віцебская вобласць, г.Міёры, галоўпаштамт, да запатрабавання на пашпарт YII-РО № 577964.

Загадзя ўдзячны."

* * *

"Паважаная "Перапіска"!

Надрукуйце, калі ласка, маю аб'яву ў газеце яшчэ раз, хачу адшукаць новых сяброў.

Мяне завуць Аляксандр. Мне 24 гады, знешне — сімпатычны, добры, без шкодных звычак, але маю дрэнны слых. Захапляюся літаратурай, спортам, тэхнікай.

Пазнаёмлюся з мэтай сяброўства з дзяўчынай 18-25 гадоў.

Мой адрас: 213600, г.Клімавічы, вул.Леніна, 76-55. Ісачэнку А.М".

* * *

"Добры дзень!

Не ведаю, як іншыя, а я саромеюся. Але вырашыў напісаць у вашу газету ў клуб знаёмстваў. Калі магчыма, то апублікуйце гэтыя фразы і словы: мне 21 год, шукаю спадарожніцу жыцця ад 18 да 25 гадоў.

225250,Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, УЖ-15/5-22. Валатоўскаму Дзмітрыю."

* * *

"Паважаная рэдакцыя газеты "Чырвоная змена"!

Пішa вам адзінокая дзяўчына, якая жадае знайсці сябра або сяброўку. Пра сябе: 16 гадоў, рост 170 см, нармальнага целаскладу. Адкажу на пісьмо, пажадана са здымкам, які абавязкова вярну.

Мой адрас: 246901, Гомельская вобл., г/п Касцюкоўка, вул.Кастрычніцкая, 1-24.

З павагай да вас Алена."

Шаноўныя чытачы! Ваша любімая "Перапіска" ў наступным годзе будзе з вамі, зразумела, калі вы не забудзеце падпісацца на нашу "Чырвонку". Акрамя таго пісьмы з адрасамі нашых падпісчыкаў на 1993 год будуць друкавацца бясплатна. Выпісвайце "Чырвонку". Не ўпускайце шанцаў пашырыць кола вашых сяброў.

**Вядучая "Перапіскі" Майя ШЭНДРЫК (32-50-01).**






